## Зьмест.



## Ад рэдакцыі.

Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва ўсіх спачуваючых, як у краі, так і за межамі і просіць прысылаць карэспандэнцыі, каб часопісь запраўды стала органам беларускае паступовае думкі.

ЦАНА 3 Kč.

Адказны рэдактар — выдавец Д-р Іван Сакаліна. Друкуе „Legiografie“ Praha-Vršovice 665.
Адрэса рэдакцыі: Tchécoslovaquie. Praha, Vinohrady, poštovní přihrádka 70.

# ПРАМЕНЬ

ЧАСОПІСЬ ПАСТУПОВАГА СТУДЭНЦТВА

Выданьне непэрыядычнае

ПРАГА ТРАВЕНЬ 1926 № 1

## Ад рэдакцыі.

Наша часопісь зьяўляецца на сьвет пад час пералому ў радох беларускае інтэлігэнцыі студэнцкае моладзі Заходняе Беларусі, Латвіі і эміграцыі.

Да гэтага часу на працягу цэлага пэрагу гадоў жыцьцё нашае моладзі вызначалася індэферэнтнасьцю ў адносінах да сучаснага грамадзкага жыцьця, адчужанасьцю ад тэй абвостранай барацьбы, якая вялася і кожны дзень вядзецца працоўнымі масамі на чале з пралетарыятам за сваё вызваленьне і упартым нежаданьнем зразумець гэтую барацьбу. На яе вачох рушыліся старыя формы жыцьця, прымушаныя пад моцным націскам рэвалюцыйных сіл уступіць мейсца новым. Стаўся вялізарнейшы факт у сьвятовай гісторыі — стварэньне першае дзяржавы працоўных, дзяржавы, даказаўшай права на сваё істнаваньне: вырашэньнем цэлага раду проціележнасьцяў, разьядаючых арганізм буржуазных краёў, перамогай атрыманай над усім капіталістычным сьветам, сваім эканамічным і культурным ростам, ня гледзячы на ўсе перашкоды, ў той час, калі буржуазныя краіны ня могуць выкараскацца з пасьляваеннай разрухі і крызісаў, стаўшых пэрманэнтнымі.

Зьдзейснілася воляй пралетарыяту заветная думка беларускае інтэлігэнцыі — Беларуская дзяржава, праўда, Савецкая. Усё гэта прайходзіла міма нашай вучачайся моладзі і заставалася не заўважаным.

Яна замкнулася сама ў сябе і прадаўжала жыць старымі ідэаламі ня так старых сваіх бацькоў, ідэаламі, дастаўшымі ў новыя пасьлярэвалюцыйныя часы зусім іншы зьмест, прадаўжала і далей лятуцець аб незалежнай «дэмакратычнай» Беларусі і. г. д.

У той час, калі беларускія працоўныя масы вялі самую жорсткую барацьбу за свае жыцьцёвыя інтарэсы з абшарнікамі і капіталістымі, для яе, якая іронія, самым актуальным пытаньнем была праблема вуніі, праваслаўя і каталіцтва, чаму пасьвячаліся шматлічныя старонкі, зусім не шматлічных часопісаў. Такое упартае нежаданьне зразумець аграмаднейшыя падзеі сучаснасьці, такая поўная адчужанасьць ад руху працуючых, шырокай хваляй





разьліваючагася ў Польшчы, мае свае прычыны і палягае, калі не у клясавым паходжаньні, дык у кожным выпадку ў клясавай дробна-буржуазнай псыхалёгіі. Беларуская вучачаяся моладзь у большасьці сваей рэкрутуецца з дробна-буржуазных колаў, больш-меньш заможнага сялянства, духавенства і др. Само сабой зразумела, што ў яе паглядах і настроях ня могуць не адбівацца сацыяльныя інтарэсы гэтае клясы, падмацаваныя яшчэ к таму буржуазна-клясавым выхаваньнем школы, царквы і дзяржавы. Не апошнім па ліку ў фармаваньні яе клясавай псыхалёгіі зьяўляецца і голас хлебных інтарэсаў, прымушаючых падумаць, на чыім баку можна сябе лепш забясьпечыць, таму што добрае забясьпячэньне — неабходная перадумова інтэлігэнцкага «дабрабыту».

У сучасным грамядзянстве інтэлігэнцыя, а значыць і вучачаяся моладзь, калі ня цяпер безпасярэдне, дык у бліжэйшай будучыні, матэр'яльна залежыць ад кіруючае клясы — буржуазіі, адгэтуль, калі ня простая, дык староньняя зацікаўленасьць яе ў захаваньні буржуазнага ладу, прыносячага ёй канкрэтныя матэр'яльныя палёгкі, адгэтуль — жа і неразуменьне ёю работніцкай сацыяльнай барацьбы. Што гэта так, яскрава сьведчыць нам той факт, што, ня гледзячы на ўвесь яе нацыяналізм і усё здавалася-б безкарыстнае, жаданьне нацыянальнага адраджэньня беларускага народу, стварэньне Савецкае Беларусі і тварэньне там беларускае культуры — не натхняла яе, таму што ўладу мае там пралетарыят. Палажэньне Савецкае ўлады здавалася ей няпэўным, ды й жыцьцё там у першыя гады было вельмі цяжкае. Гэта прымушывала яе ўстрымлівацца нават у выказываньні сваіх сымпатыяў. Увесь час у сваей душы яна песьціла надзею на атрыманьне ад дужых гэтага сьвету роднай, «дэмакратычнай» Беларусі, напачатку можа не як незалежную дзяржаву, дык хоць як аўтаномную вобласьць Польшчы, у каторай тады можна было-б знайсьці прылажэньне сваім інтэлігэнцкім сілам.

Але дарма, tempora mutantur! Вопыт апшніх гадоў аканчальна разьбіў надзеі нават на якую небудзь аўтаномію. Эканамічнае становішча Польшчы з кожным годам усё горшае, так што самым вялікім аптымістым даводзіцца сумлявацца ў магчымасьці аздараўленьне польскай гаспадаркі.

Адбываецца агульнае зьбядненьне, а разам з ім усё далей і далей адсоўваюцца пэрспэктывы магчымасьці асабістага інтэлігэнцкага дабрабыту. Калі выкідаюцца на вуліцу тысячы польскіх інтэлігэнтаў, дык беларускім зусім няма на што спадзявацца. Разам з гэтым у суседняй Савецкай Беларусі, дзе ўладу мае пралетарыят, эканамічнае жыцьцё разьвіваецца хуткім тэмпам, палепшываецца дабрабыт шырокіх гушчаў, а з ім і дабрабыт інтэлігэнцыі. Да таго адчыняюцца шырокія пэрспэктывы для ўсіх відаў разумовае працы, вызваленай ад грамадзка-гістарычных путаў і абмежаньняў. Гэтыя факты, і толькі яны, патрошкі змушаюць інтэлігэнцыю і вучачуюся моладзь разумець ідэю калектывізму і сацыялізму.

Восім гадоў існаваньня Савецкае ўлады, агульны крызыс буржуазнае гаспадаркі, усё большае і большае нарастаньне кляса-вае барцьбы на ўсім сьвеце, а асабліва ў Польшчы, змушаюць яе лічыцца з магчымасьцю безпасярэдняй перамогі сацыялізму, а тым самым і разумець сутнасьць работніцкага руху і самой прый-маць у ім удзел. Такі пералом ужо стаўся ў радох беларускае інтэлігэнцыі і вучачайся моладзі.

Лічучы гэта зусім нармальным зьявішчам, а падобны шлях падыходу зусім прыродным і адзіна магчымым не для адзінак, а для шырэйшых мас інтэлігэнцыі, мы рашылі выдаваць сваю часопісь, каб памагаць развіцьцю гэтага працэсу. У першую чаргу лічым сваім заданьнем арганізаваць наўкола часопісі ўсе тыя элямэнты вучачайся моладзі і моладзі наагул, якая ўсьвядаміла неабходнасьць сацыялістычнага думаньня і дзеяньня, каб агуль-нымі сіламі ў нашым журнале паглыбляць гэтыя веды ў практыч-ным прылажэньні да рэальных заданьняў нашае сапраўднасьці. Апрача таго наша часопісь мусіць стаць трыбунай прапаганды сацыялістычных прынцыпаў для ўсіх тых, якія ня выпрацавалі сабе яснага сьветагляду на сучаснае становішча, але шчыра і чэсна імкнуцца знайсьці сваё мейсца ў барцьбе старога сьвету, сьвету гвалту і эксплёатацыі з новымі прынцыпамі — вызваленьня і панаваньня працуючых.

Наш орган, хоць выдаецца на эміграцыі, у першую чаргу прызначаецца для Заходняе Беларусі і Латвіі, а дзеля гэтага на становішча дадзеных краін і будземо зьвяртаць галоўную увагу, інфармуючы пры гэтым аб тэй культурнай працы, якая вядзецца у Савецкай Беларусі. Толькі ў першым нумару будзе больш адведзена мейсца увагам аб эміграцыі, каб зьвясьці з ёю падра-хункі.

---

## ПЕСЬНЯ РАТАЯ.

Гэй ратаі, мы маем моц кайданы рваць!
Стаў неўмаготу панскі вызыск-зьдзек.
Дык, бунтары, з вясковых гонь, разутых рацЬ!
Да бою! брацЬ грабованае век!
　　Шум грамады, бразг кос, сярпоў узносяць сьцяг.
　　Прастор наш хоча коласам зьвінець.
　　Красуй паход, дасьпей удар, расьці размах!
　　Цалінаў краскі гінуць ў баразьне.
Чырвоны рух па гарадох, як гром, віхор.
У палацах жах і помста выйшла з хат.
На сход гудкі гудуць у даль нізін і гор.
Серп, малаток у працы ладзяць лад!
　　Гэй, ратаі, сярмяжны люд усей зямлі!
　　Мы болей не рабы, час зброю браць.
　　Паўстанем ўраз, мы, змагары ад ніў, ральлі.
　　За ўладу нам, за нашу зямлю — мацЬ. *Л. Родз-іч.*

# Сялянскі саюз і яго антысялянская роля.

У апошні час беларускае грамадзкае жыцьцё пад Польшчай вызначылася новай падзеяй — гэта заснаваньне часткай беларускага пасольскага клюбу Сялянскага Саюзу. Факт сам па сабе ня значны, але ўсё-ж даволі паказны, так што над ім трэба спыніцца. Тым больш гэта неабходна, што паны арганізатары, прыкрываючы свае лёкайскае аблічча плашчыкам апазыцыйнасьці да сучаснага польскага рэжыму, выстаўляюць сябе адзінымі запраўднымі абаронцамі беларускага сялянства і стопрацэнтнымі патрыётамі.

У сваім органе «Сялянская Ніва» паны арганізатары выступілі з цэлым шэрагам праграмовых артыкулаў. Аснаўная думка, што прайходзіць чырвонай істужкай праз усе гэтыя артыкулы, урэшце зводзіцца да наступнага: усе клясы сучаснага грамадзянства, як буржуазія і шляхта, так і пралетарыят жывуць на кошт сялянства, дык апошняе для абароны сваіх інтарэсаў і каб дабіцца развязаньня ўсіх сваіх набалеўшых і пякучых праблемаў, павінна зарганізавацца ў-ва ўласную незалежную арганізацыю.

Вось прыблізна credo новых дабраздеяў беларускага сялянства, абаргумэнтаванае к таму-ж своеароднымі статыстычнымі даннымі п. Ярэміча.

Процістаўлячы інтарэсы сялянства інтарэсам пралетарыяту, стаўлячы яго ў шых эксплёататараў на адну дашку з капіталістымі і абшарнікамі, як гэта робіць п. Ярэміч у сваім артыкуле «Рабочыя і сяляне», Сялянскі Саюз тым самым хоча пераканаць сялян у тым, што пралетарыят зьяўляецца, калі ня ворогам, дык у кожным выпадку і ня прыяцелем.

Пішучы ў сваім органе яўную недарэчнасьць аб эксплёатацыі сялян пралетарыятам у С.С.С.Р., Сялянскі Саюз паказвае, што імкнецца падарваць даверра сялян да пралетарыяту і да яго ня прымірымай вызвольнай барацьбы супроць буржуазіі, імкнецца, калі ня проста, дык пасярэдне нацкаваць сялянства на рабочых. Замест таго, каб паказаць селяніну яго запраўдных ворагаў, якія здымаюць з яго ня толькі апошнюю кашулю, але і скуру — буржуазію і абшарнікаў, яны стараюцца, як круцялі, калі не падмяніць яе рабочай клясай, дык у кожным выпадку засланіць, каб зусім справядлівы гнеў сялян, крый божа, не зваліўся доўбняй на галаву буржуазіі. Хіба ў гэтай плашчыне ляжыць абарона інтарэсаў сялянства? Хіба гэтага хоча сялянства? Яно патрабуе перад усім зямлі! Сялянства душыцца на тых маленькіх кавалках, якія яно мае! Дзякуючы беднасьці і эканамічнай адсталасьці яно ня можа падняць культуру і інтэнсыўнасьць сваей гаспадаркі, а тым самым палепшыць свой дабрабыт. У сувязі з крызысам прамысловасьці і безрабоцьцям яно ня можа выкінуць у места лішкі рабочае сілы, ня можа дарабіць сэзоннымі працамі, нявыстарчаючых да жыцьця, сродкаў.

Прад масамі сялянства стаіць дылема — або атрымаць якімі небудзь спосабамі ўсю зямлю ў краі, або паміраць з голаду Ча-

стковыя ўступкі альбо падачкі ня могуць задаволіць, нават да мінімума скарочаных, патрэб сялянства. Даць больш польская буржуазія ня можа. Гэта паказаў нам яскрава васьмёхгадовы вопыт яе панаваньня. Для таго, каб задаволіць патрэбы сялян, неабходна выўласьціць усіх абшарнікаў, канфіскаваць соткі тысячаў дзесяцін царкоўнай і манастырскай зямлі. Гэткі крок для польскай буржуазіі быў-бы раўназначны самапазбаўленьню ня толькі верных саюзнікаў у асобах абшарнікаў і духавенства, гэтае ідэалёгічнае апоры безкантрольнага панаваньня над шырокімі народнымі масамі, але і нажыцьцю новых варагаў, у руках якіх знаходзіцца армія і сродкі духовага паняволеньня мас. Апрача таго гэткая канфіскацыя зямлі зьяўлялася-бы цяпер адначасна і ударам па самаму капіталу, інтарэсы якога былі-б занадта парушаны падобным мерапрыёмствам. Трэба памятаваць, што сучасная абшарніцкая гаспадарка тысячамі нітак зьвязана з банкамі і што кожная канфіскацыя абшарніцкай зямлі азначала-б адначасна і канфіскацыю часткі банкаўскага капіталу. Буржуазія добра разумее, што падобнае мерапрыёмства мела-б за насьледак падрыў яе эканамічнай, а тым самым і палітычнай сілы. Дзеля гэтага на падобнае харакіры бяз бою яна ня пойдзе. Яе адпор можа быць зламаны толькі рашучай барацьбой, толькі ў бязлітаснай рэвалюцыйнай бойцы. Толькі скінуўшы панаваньне буржуазіі атрымае сялянства зямлю. Скінуць панаваньне капіталістаў, а тым самым здабыць сабе зямлю, сялянства само ня зможа, хаця-ж бы ў сілу сваей распарушанасьці ня кажучы ўжо аб іншых прычынах. Нельга забываць, што прыйходзіцца мець справу з сілай найбольш цэнтралізаванага банкаўскага капіталу, які мільёнамі нітак зьвязаны з усімі галоўнымі цэнтрамі капіталістычнай гаспадаркі. Перамагчы яго можа толькі няменьш сканцэнтраваная сіла мястовага пралетарыяту пры энэргічным падтрыманьні з боку сялянства. Толькі цесны саюз і барацьба адзіным фронтам усіх працоўных пад кіраўніцтвам пралетарыяту зьяўляецца зарукай перамогі над вызысківачамі. Новаспечаныя дабрадзеі народу з Сялянскага Саюзу ня хочуць, як відаць, гэтага зразумець. Яны думаюць, ці праўдзівей стараюцца распаўсюдзіць думку, што атрыманьне сялянствам зямлі зараз у Польшчы магчыма бяз скіненьня буржуазіі, бяз поўнага разрыва з ёю. Гэтым яны паказываюць, што абараняюць не інтарэсы сялянскай масы, а толькі нязначнае кучкі кулакоў і буржуазіі. Лёзунгам абароны сялянскіх інтарэсаў яны толькі хочуць ашукаць шырокія сялянскія масы, прывясьці іх да саюзу з капіталістымі, а тым самым аканчальна падпарадкаваць іх апошнім. Цкуючы сялянства на работнікаў, яны стараюцца разьбіць наладжваючыйся ўжо адзіны фронт працоўных, гэтую неабходную перадумову перамогі, а знача і зьдзейсьняньня дамаганьняў сялян. Гэтым самым яны паказываюць, што інтарэсы сялянскага агулу, правадырамі якога яны хочуць сябе лічыць, яны здрадзілі на карысьць буржуазіі. Злачынак іх супроць беларускага сялянства павялічываецца яшчэ і тым, што сваю лёкайскую паслугу польскай буржуазіі робяць у час, калі яна знайходзіцца

ў сьляпым завулку з якога няма выхаду, калі панаваньне гэтай буржуазіі страціла ўсякую эканамічную базу і трымаецца штучна толькі сілай грубога гвалту і бязьлітаснага белага тэрору, скіраванага супроць працоўных мас. Але тэрорам доўга не пратрымаешся. І вось польская буржуазія, каб прадоўжыць дні свайго панаваньня, рашаецца даць свайму паміраючаму арганізму апошнюю інэкцыю. Яна зьбіраецца прадаць Польшчу англа-амэрыканскаму капіталу, зрабіць яе тым самым каленіяй, пхаючы ўвесь працоўны люд у беспрасьветную жаброту, а работніцкую клясу на выміраньне. У гэтым па істоце хаваецца сэнс буржуазна-абшарніцкай праграмы «ратаваньня краю», які лёг у аснову апошняе кааліцыі.

Становішча беларускага сялянства, ў выпадку зьдзейсьненьня падобнага пляну, не падаецца уяўленьню, таму што Заходняя Беларусь зрабілася-б каленіяй каленіі, дзякуючы чаму уціск быў-бы падвойны. Выканаць гэты плян, супроць якога ня могуць не паўстаць тыя сяляне і работнікі, якія уцямяць забойчасьць яго наследкаў, польская буржуазія зможа толькі перацягнуўшы на свой бок заможнае і серадняцкае сялянства, раней ашукаўшы яго рознымі абяцанкамі ў галіне эканамічнай і палітычнай.

І вось тут ролю лёкая, якому даручаецца польскімі панамі ашукаць беларускіх сялян, бярэ на сябе «Сялянскі Саюз». Аб гэтым добра сьведчыць яго кароткая практыка. Замест таго, каб памагчы сялянам разабрацца і ўцяміць тое рабства, якое ім гатуе польская буржуазія, замест таго, каб зваць сялянства да абароны сваіх жыцьцёвых інтарэсаў, да барацьбы з польскімі акупантамі, цтопрацэнтныя патрыёты з Сялянскага Саюзу вядуць бессаромнае скаваньне супроць пралетарыяту, гэтага адзінага і пасьлядоўнага барацьбіта супроць капіталізму; цкуюць на Б.С.С.Р., дзе работнікі і сяляне перамаглі буржуазію і будуюць свой дабрабыт.

Якім-бы плашчыкам апазыцыйнасьці да сучаснага польскага ураду ня прыкрываліся паны з «Сялянскага Саюзу, аб'ектыўна ўсё роўна-праца іх зьяўляецца працай скіраванай на узмацаваньне і падтрыманьне польскай буржуазіі, а значыць гвалту і уціску, і тым самым яны зьяўляюцца зраднікамі беларускіх працоўных гушчаў. Ня здарма польская буржуазія спрыяе і радуецца, вітаючы іх у сваей прэсе, як на прыклад у «Nowym Kurjere Polskim».

*П. Д.*

---

## Некалькі уваг аб становішчы у Польшчы.

Кожны чытаючы часопісі ня можа не заўважыць, што амаль уся прэса не абходзіць маўчком сучаснага гаспарадчага крызісу Польшчы. Уся прэса адводзіць на сваіх старонках мейсца для цэлых артыкулаў, каментуючых цяжкое эканамічнае становішча польскае дзяржавы. Здавалася-б, што для Польшчы падобныя крызысы не навіна, што крызысы гэтыя паўтараліся ўжо некалькі

разоў. Дзеля чаго-ж падымаць такі вялікі гоман і шум наўкола апошняга крызысу? Вось у тым-та і бяда, што цяперашні крызыс падгатоўваўся ўжо даўно; ён зьявіўся як рэзультат цэлага шэрагу папярэдніх крызысаў, якія ў апошнія гады і месяцы рухалі Польшчу па нахілянай плашчыне. Апошні крызыс, самы глыбокі і востры, можа зрабіцца нямінучай катастрофай, калі толькі ў час ня будуць прыняты надзвычайныя меры.

З каждым днём прыйходзяць усё новыя і новыя весткі аб пагоршаньні гаспадарчага стану Польшчы. Што ня дзень, дык і новае крахаваньне фірмаў, новае зачыненьне фабрыкаў і заводаў. Вартасьць злотага ніяк ня можа ўсталіцца, а хістаецца ня толькі з каждым новым месяцам, але, нават, і з каждым днём. Цэны на прадметы першае патрэбы шпарка растуць, а заработная платня рабочых і служачых скарачываецца. Мала таго, каждны дзень выкідваюцца на брук тысячы безработных, матэр'яльнае становішча каторых страшэнна цяжкое.

Прычын, разьдзіраючых сучасную Польшчу супярэчнасьцямі, вельмі шмат. Мы ня будземо застанаўлівацца над падрабязнымі пералічаньнямі іх, а толькі падамо дзе-каторыя з іх.

Створаная вэрсальскімі мудрацамі ў абсурдных нацыянальна-гэографічных межах, Польшча кіравалася і цяпер кіруецца ўладай, якая гарачым жалезам выпякала й выпякае рэвалюцыйны работніцкі рух, якая душыць і уціскае папаўшыя пад яе «апеку» нацыянальнасьці і якая вядзець прэтэнцыёзна-імпэрыялістычную вонкавую палітыку. Праваднры польскае палітыкі мусілі-б і маглі-б весьці шмат умяркаванейшую і цішэйшую вонкавую палітыку, каб яны толькі цьвяроза лічыліся з фактам — наколькі праблематычнай зьяўляецца для Польшчы магчымасьць эканамічнае незалежнасьці.

Трэ' памятаваць, што Польшча акружана эканамічна моцнымі і магутнымі суседзямі. У адносінах-жа збыту вырабкаў свае прамысловасьці Польшча залежыць ад рынку С.С.С.Р., з якім польскія паны і да гэтага часу вядуць варожую эканамічную палітыку. Экспортныя магчымасьці польскай прамысловасьці так сама сьціснены канкурэнцыяй тэхнічна разьвіненых Нямеччыны і Чэхаславакіі. Вось і ня дзіва, што польская прамысловасьць нішчыцца, фабрыкі і заводы за бясцэнак прадаюцца чужынцам. Прамысловая прадукцыя зьменшылася і прадаўжае зьменшацца. Напр.: сярэдняя месячная прадукцыя ў тысячах тон па вырабу:

| | 1923 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| кам. вугля | 3.008 | 2.100 |
| жалезнае руды | 37,6 | 14,3 |
| чыгуна | 48,4 | 25,0 |

Такі вялікі ўпадак прамысловасьці выклікаў пагоршаньне балянсу вонкавага гандлю. Дзякуючы гэтаму пасыўнае сальдо ў балянсе з кожным годам няспыняючыся расьце. Напр., балянс польскага вонкавага гандлю даў пасыўнае сальдо за 1924 г. 212 мільёнаў

злотых, а за першае паўгодзьдзе 1925 г. — 515 міль. злотых. Пры гэткай разрусе прамысловасьці і наагул усяе гаспадаркі польскае дзяржавы, вонкавы гандаль у разрахуначным балянсе мае вялічэзнае значаньне. Дзеля гэтага катастрафічны пасыў вонкавага гандлю адыграў аграмадную адʼемную ролю ў разрахуначным балянсу Польшчы. Гэты балянс, стаўшы рэзка дэфіцытным, спрычыніўся зьменьшаньню золата (уцечцы золата за граніцу), заграмічнай валюты ў касе дзяржаўнага банку, дзякуючы чаму курс злотага рэзка захістаўся. З 1 студня і па 1 жніўня 1925 г. золата, цьвярдое валюты і іншых забясьпячэньняў у польскім банку зьменшылася з 372,4 мільён. зл. на 194,0 міл. зл. Дзяржаўны бюджэт Польшчы аднае пары сваёй дэфіцытнасьцю пабіў рэкорд, даўшы дэфіцыт у 500 мільён. зл. за год, у той час як уся расходная частка польскага бюджэту на 1924 г. была расьпісана на 1.672 мільёнаў злотых.

Аднэй з галоўных прычын дэфіцытнасьці бюджэту і фінансавых крызысаў зьяўляецца перацяжэньне польскага гаспадарства выдаткамі на ваенна-палітычныя патрэбы, на ўтрыманьне паліцэйскага і бюракратычна-чыноўніцкага апарату. Вялічэзныя выдаткі на ўтрыманьне арміі паслужылі галоўнай прычынай павялічэньня польскага дзяржаўнага бюджэту з 700 мільёнаў да 2 мільярдаў злотых. Гэтыя выдаткі на азбраеньне зрабілі немагчымым якое-небудзь падтрыманьне польскай паміраючай прамысловасьці. Адна за другой зачыняюцца польскія фабрыкі, а тым самым тысячы работнікаў застаюцца без сродкаў для істнаваньня. Лік безработных перавысіў ужо 400.000, што складае палову работнікаў цэлага краю.

Няма чаго і казаць, што цяперашні крызыс прамысловасьці, крах валюты, карупцыі і афэры урадоўцаў цягаром кладуцца на плечы працоўных мас Польшчы. Тэму зусім ясна і зразумела, што, ня гледзячы на круты і жорсткі белы тэрор, масы ня маюць ужо больш сілаў далей істнаваць у такіх умовах. Пратэст мас стыхійна выбухае навонак. Падзеі ў Калішы, дзе дэманстрацыя безработных стыхійна перайшла ў паўстаньне, дзе навядзеньне «парадку» перайшло ў крываваю бойку, дзе салдаты адмаўляліся выступаць супроць безработных — паказываюць, да чаго ўжо даведзена цяпер цярпеньне мас.

Такі палітычны крызыс, узьнікшы на грунце няпэўнасьці ў эканоміцы, масавым росьце жабраты, на чуць стрымованым пратэсту бяспраўных нацыянальнасьцяў, — прымусіў кіруючыя польскія колы ўсурʼез задумацца над шуканьнем выхаду з гэтага архікрытычнага палажэньня. Польская буржуазія бачыць выхад у буйнай заграмічнай пазычцы. Але прайшоў той залаты час, калі для Польшчы сыпаліся пазыкі, як манна з неба. Гэта быў час, калі вялікія дзяржавы марылі рукамі Польшчы задушыць Савецкую ўладу, а потым між сабой хацелі падзяліць скуру Савецкага мядзьведзя. Часы тыя прайшлі беспаваротна. Скуру Савецкага мядзьведзя падзяліць не давялося. Але за тое, ў даўгі Польшча залезла, як кажуць, па самыя вушы. Адных толькі

замежных даўгоў на 1 студня 1925 г. налічывалася 1. 59.301.516 злотых. Гэтая зусім салідная і значная лічба кажа, каб саюзьнікі ў будучыне, разлічываючы на скуру Савецкага мядзьведзя, балей пазык Польшчы не давалі. Добра, але-ж польскай буржуазіі пазыка патрэбна да зарэзу, бо йначай у блізкай будучыне можа прыйсьці катастрофа. Некаторыя польскія палітыкі гатовы лоб разьбіць перад Чэмбэрленам, каб толькі даказаць сваю палітычную пэўнасьць і ранейшую ненавісьць да бальшавіцкага суседа. Характэрным доказам толькі што сказанага зьяўляецца той гоман і вэрхал, які падняўся даўкола паездкі групы польскіх соймавых паслоў у С.С.С.Р. Спачатку гэтую дэлегацыю польскія валадары ўгаварывалі пакінуць нікчэмную паездку, а калі-ж пабачылі, што ўгаварываньне не памагае, дык пачалі страшыць дэфэнзывай. Апошняе мела пасьпех, бо з раней зьбіраўшыхся ехаць 19 чалавек, паехала толькі 8. Паехаўшых польскіх соймавых дэпутатаў польская прэса як найляпей пастаралася абліць памыямі, — абзываючы іх прадажнымі людзьмі, бальшавіцкімі агэнтамі і г. д. Разам з гэтай маной і лаянкамі так сама польскія палітыкі не застаюцца пасыўнымі, а робяць выпады супроць С.С.С.Р. Падобным паступаваньнем правадыры польскае палітыкі сілкуюцца перад Антантай і ангельскай буржуазіяй закрыць растучую зацікаўленасьць, растучыя сымпатыі польскага народу да Савецкага гаспадарчага будаўніцтва. Яны пнуцца гэткім чынам сарваць намечанае ўжо супрацоўніцтва на гаспадарчым полі дзьвёх суседніх дзяржаваў. У імя чаго ўсё гэта робіцца? У імя чужых польскаму народу інтарэсаў, у імя варожага акружэньня С.С.С.Р., праэкт якога быў пачаты ў Лёкарне. Гэткай цаной польскія палітыкі хочуць выслужыцца перад ангельскай буржуазіяй, палегчыць сабе ўмовы пазыкі, якую яны просяць у Англіі. Але як відаць, усяго гэтага ангельскаму капіталу будзе мала. На гэты раз ангельская буржуазія захоча мець некаторыя прэтэнзіі ня толькі на палітычную незалежнасьць Польшчы, якую апошняя ўжо даўно згубіла, але і на гаспадарчую незалежнасьць. Капіталісты Англіі ня вельмі сьпяшаюцца даць пазычку Польшчы. Яны вычэкваюць такога моманту, калі за новую пазычку можна будзе дастаць ня толькі вялікія працэнты, ня толькі заабавязаньне Польшчы быць аружжам у руках ангельскага імпэрыялізму супроць Савецкага Саюзу, але і мець сваіх дырэктароў у дырэкцыях польскіх чыгунак, узяць пад кантролю тую ці іншую польскую манаполію і г. д.

Усё гэта сьведчыць, што польскі гаспадарчы крызыс чараваты ня толькі ўнутранымі супярэчнасьцямі, але ён асабліва чараваты тымі насьледкамі, якія выцякаюць дзякуючы з намечаючыхся суадносінаў Польшчы з другімі дзяржавамі.

Цяпер для Польшчы ёсьць дзьве магчымасьці выйсьці з сучаснага катастрафічнага гаспадарчага крызысу.

Першая — адмовіцца ад францускай арыентацыі, ад палітыкі вялікае дзяржавы, г. е. скараціць ваенна-палітычны апарат, падпарадкавацца дыктатуры англа-саксонскага капіталу, перадаўшы

яму дзяржаўныя манаполі, чыгункі і г. д. Карацей кажучы — адмовіцца ад палітычнай і эканамічнай незалежнасьці; падпарадкаваць сваю ўнутрашнюю і вонкавую палітыку загадам з Лёндана і аддацца на міласьць і няміласьць Англіі.

Другі шлях — гэта шлях пралетарскай рэвалюцыі. Польская буржуазія — а адначасна і яе агэнты, правадыры дробнабуржуазных партыяў, каб прадоўжыць на некаторы час сваё панаваньне, выбралі, ня гледзячы на сваю «незалежніцкую» фразеалёгію і вялікадзяржаўнасьць, першы шлях. Яны згодны зрабіць з Польшчы калёнію чужацкага капіталу, абы толькі захаваць надалей хоць частку сваіх прыбыткаў. Каб «выратаваць» бацькаўшчыну, яны гатовы ісьці на вялікія ахвяры, але, на жаль, толькі за кошт працуючых. Каждаму ясна і зразумела, што з ажыцьцяўленьнем падобнага пляну польскіх капіталістаў увесь цяжар ляжа на плечы працоўных мас. Апошнія будуць змушаны задавальняць апэтыты ня толькі свае буржуазіі, але і апэтыты англа-саксонскага капіталу.

Гэты новы напрамак польскае буржуазіі азначае далейшы наступ на пралетарыят, пазбаўленьне яго ўсіх эканамічных і сацыяльных здабыткаў аж да адняцьця васьмёхгадзіновага рабочага дню; ён азначае рост дарагоўлі і павлялічэньне налогавага цяжару для сялян і дробнай буржуазіі.

Стварэньне з Польшчы калёніі англа-амэрыканскага капіталу яшчэ больш пагоршыць і так ужо цяжкое палажэньне работнікаў і сялян. Але і гэткая палітыка польскіх паноў усяроўна надоўга іх ня выратуе, таму што яна ўшчэнт зруйнуе прамысловасьць, выкліча распрадажу натуральных багацьцяў, рост безрабоцьця і зямельны голад, дзякуючы чаму працоўныя масы, папаўшы ў беспрасьветную жабрату і пакуту, пачнуць шукаць сабе выхаду, які для работнікаў і сялян буржуазнае Польшчы можа быць толькі — у пралетарскай рэвалюцыі. Працоўныя масы ўжо памалу пачынаюць цяміць тую пагрозу, якая стаіць перад імі. Сьведкай апошняга зьяўляецца нарастаньне ваяўніча-рэвалюцыйнага настрою пралетарыята, часам прарываючагася, нават ужо цяпер навонак. Тыя ня спыняючыяся крывавыя сутычкі работніцкіх мас з паліцыяй (Каліш, Стрый, Львоў і др.) кажуць тое, што Польшча можа стаць тэрэнам буйнейшых гістарычных падзеяў.

---

## Трошкі аб беларускай партыі эс=эраў.

Даўно ўжо адпачываюць правадыры Б.П.С-Р., а з імі і ўся партыя, таму што яны-ж адначасна зьяўляюцца і ўсёй яе масай, на лаўрах атрыманых імі «рэвалюцыйных» перамог, падтрымліваючы сваё істнаваньне крошкамі падаючымі са стала эўрапейскай буржуазіі. Час ад часу яны ўсё-ж такі лічаць сваім абавязкам напомніць аб сваім істнаваньні і паказаць праскім эмігрантам сваю

вернасьць запаветам контр-рэвалюцыі і аб сваей «інтэрнацыянальнай» салідарнасьці з імі. Гэта бывае звычайна тады, калі пагражае небясьпека іх асабістаму дабрабыту, ці калі, як на прыклад у 1923 годзе пад час ліквідацыйнага з'езду ў Менску, магло быць пасаромлена іх чэснае, контр-рэвалюцыйнае «рэномэ». У гэты-ж раз прычынай новага прыліва энэргіі і «рэвалюцыйнага» патасу зьявілася Бэрлінская Нарада беларускіх антысавецкіх палітычных дзеячоў, асудзіўшых усю дацяперашнюю сваю працу і прымушаных прызнаць, што адзінай магчымай арыентацыяй для беларусаў зьяўляецца Менск, а адзінай формай ўлады, даючай магчымасьць запраўднага перавядзеньня нацыянальнага вызваленьня — Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Як-жа не клапаціцца, калі гэтым закрануты жыцьцёвыя інтарэсы, а таксама рухаецца адзіны нацыянальны антысавецкі фронт. Калі самая контр-рэвалюцыйная часьціна беларускае эміграцыі ў асобах бэ-эн-эраўцаў, пад націскам крычачае запраўднасьці, змушана была прызнаць тое, проці чаго ў працягу васьмі гадоў вяла актыўную барацьбу, прызнаць, пасьля выпрабаваньня ўсіх сродкаў, а ў сродках паны бэ-эн-эраўцы неасабліва былі пераборлівы, што ў дадзены момант, каб не застацца за бартом жыцьця, другога шляху, апрача арыентацыі на Савецкую Беларусь няма, дык што-ж даводзіцца чакаць ад астатняй меньш рэакцыйнай, хутчэй палітычна несьвядомай часьціны беларускае эміграцыі і грамадзянства? К таму-ж, гэты факт можа кінуць цень на эс-эраўскую лёкайскую спрытнасьць, што ня зусім прыемна, таму што ей адзначаецца курс падобных партыяў на біржы міжнароднае рэакцыі. Volens nolens, а даводзіцца рухацца. Аганжуюцца зборкі і пры гэтым асабіста правадыры запрашваюць балахаўцаў для падтрыманьня іх «сацыялістычнае» думкі; 14 змабалізаванымі эс-эра-манархістамі выносіцца рэзалюцыя пратэсту «ад імя ўсяго беларускага студенцтва» (лэўна для большага эфэкту). У рэшце рэшт у вялікім сьпеху выдаюцца для заспакаеньня патронаў бюлетэні, дзе і даводзіцца да іх ведама, што нарада рэпрэзэнтавала ўсяго толькі некалькі асоб беларускіх эмігрантаў, якія дзеля сваіх асабістых інтарэсаў вырашылі прыкрыцца сьцягам беларускага вызвольнага руху і што нарада зьяўляецца толькі прыватнай справай групы зьменатычнікаў.

Добра, калі канфэрэнцыя была прыватнай толькі справай некалькіх эмігрантаў, дык чаму-ж паны эс-эры палічылі неабходным паслаць туды сваіх прадстаўнікоў, у тым ліку і члена Ц.К. і замежнага бюро — пана Мамоньку, чаму-ж у асобе іх яны з усіх сіл стараліся перарабіць нараду ў антысавецкую маніфэстацыю? Чым, як нч лёкайствам, можна вытлумачыць факт замаўчываньня пазыцыі, занятай беларускай меньшасьцю ў Латвіі?! Можа і гэтых прадстаўнікоў паны эс-эры лічаць эмігантамі?!

Наагул, дыскутаваць з падобнымі людзьмі, якія з нізкіх матываў карыстаюцца нават маной, няма сэнсу. Але паколькі гэтыя паны стараюцца прыкрыць сваю лёкайскую істоту аўчынкай рэвалюцыйнай фразы, а тым увесьці ў часовае заблуджэньне

палітычна несьвядомых прастачкоў, пасколькі сілкуюцца спэкуляваць сацыялізмам у надзеі зьбіць сабе на гэтым палітычны капітал, воляй няволяй даводзіцца ўзяцца за пяро і напомніць дзе якія факты з «рэвалюцыйнай» працы гэтай «сацыялістычнае» партыі. Прыняўшы гордую рэвалюцыйную позу, паны эс-эры ў сваім бюлетэні з пагардай абзываюць сваіх былых таварышаў за тое, што зьмянілі свае адносіны да савецкае ўлады, лёкаямі і прадажнымі душамі. Выходзіць, што ў разуменьні эс-эраў, прызнацца ў сваіх абмылках і жадаць працаваць разам з працоўнымі масамі — лёкайства, служыць — жа буржуазіі верай і праўдай — рэвалюцыйны чын.

Цяпер зразумела, чаму правадыры гэтае партыі любяць абіваць парогі прыёмных буржуазных міністраў. Не так даўно паны Мамонька і Грыб схілялі галовы перад дырэктарам Усходняга Дэпартамэнту Міністэрства замежных спраў Літвы, клерыкалам Жэмайцісам, пытаючы, што і як пісаць у «незалежным» эс-эраўскім сацыялістычным органу «Сялянская Доля».

У сваім бюлетэні эс-эры асьмеліваюцца называць камуністаў рэакцыянэрамі і абвінавачываюць іх у тым, што нібы-та яны, камуністы, разьбілі работніцкі фронт проці буржуазіі, а ў адозве ад 14. 4. 1924 г. угледжываюць гэтае ў тым, што ў свой час распусьцілі партыю эс-эраў, а дзе-каго выслалі ў адпаведныя мейсцы. Ці-ж гэта ня цынізм з боку паноў эс-эраў, прыймаючы пад увагу усю іх практыку? Будучы так рэвалюцыйна пасьлядоўнымі ў абароне інтарэсаў працуючых мас на славах, ці заўсёды яны былі так пасьлядоўны на дзеле?

У марыянетачнай радзе Б. Н. Р. яны ня толькі супрацоўнічаюць, але і самі высоўваюць на пасаду старшыні Крэчэўскага, паказаўшага сваю адданасьць інтарэсам працуючых беларускіх гушчаў, вернападаніцкай тэлеграмай Вільгэльму, з просьбай памагчы усьцішыць бальшавікамі ўзбунтаваных рабоў. У ўрадзе Б.Н.Р., як міністра замежных спраў, пасылаюць адпаведнага працаўніка сваей партыі і адначасна французскай дэфэнзывы п. Ладнова, катораму і даручаюць абарону інтарэсаў беларускіх працуючых мас на Вэрсальскай канфэрэнцыі.

Ці-ж супрацоўніцтва пана Мамонькі з нямецкім гэнеральным штабом таксама была ў інтарэсах беларускіх працоўных мас! Далей, рэдактарам свайго цэнтральнага органа «Змаганьне» назначаюць юдэніцкага контр-разьведчыка, а потым польскага дэфэнзыўшчыка Злоцкага. Аб тым, што Злоцкі служыў у Юдэніча ў контр-разьведцы, правадыром не магло быць ня ведама, бо Злоцкі і сам гэтага не таіў. Ня гледзячы на гэта яны ўсё-ж такі Злоцкаму давяраюць.

Пад час рыскіх перагавораў, калі работнікі і сяляне Савецкіх Рэспублік напружывалі апошнія сілы, каб вызваліцца ад белагвардэйскіх банд і зачаць будову новага жыцьця, Ц.К. з «работніцкай» салідарнасьці выдзяляе з сябе ваенна-паўстанчы камітэт на чале з Бадуновай, паставіўшы сабе за мету падняць паўстаньне ў савецкай часьціне Беларусі. У склад ваенна-паўстанчага ка-

мітэту ўводзяць і вядомага п. Злоцкага, пэўна для каардынацыі працы з «зялёным дубам».

Нарэшце падыймаюць на кошты польская буржуазіі пры пасрэдніцтве п. Якубецкага паўстаньне ў Случчыне. На чале паўстаньня стаяць эс-эраўскія правадыры. Другія-ж, седзячыя ў так-званым урадзе Б.Н.Р. пасылаюць туды сваіх эмісараў, а ў бюлетэнях свайго прэс-бюра сьпяшаюцца прапанаваць міжнароднай буржуазіі свае паслугі і стараюцца падбадзёрыць, упаўшых духам ад удараў работніцка-сялянскага кулака, заходня-эўрапейскіх інтэрвэнцыяністаў.

Выстаўляючы сябе ў сваіх бюлетэнях, як стопрацэнтных змагароў за справу вызваленьня беларускіх працоўных масаў з ярма капіталізму, беларускія эс-эры адначасна ў асобе свайго правадыра Грыба працягіваюць брацкую руку зялёнадубцам і польскім дэфэнзыўшчыкам з «Грамадзкага Голасу» і прапануюць свае супрацоўніцтва. Пэўна беларускія эс-эры ў супрацоўніцтве з дэфэнзывамі бачаць заклад перамогі беларускіх працоўных гушчаў над польскай буржуазіяй!? Ну што-ж, трэба толькі віншаваць вас панове, з падобнай працай. Адно толькі трэ' заўважыць. Будзьце хоць трошкі чэснымі. Вы-ж называеце сябе прадстаўнікамі «этычнага сацыялізму» і не спэкулюйце сацыялізмам і работніцкім рухам з каторым ня маеце нічога агульнага.

Будзьце і ў сваёй фразеалёгіі так пасьлядўны, як і ў практыцы.

*Г.*

---

## Аб беларусізацыі.

Лёзунгі, выкінутыя компартыяй на X і XII з'ездах аб правядзеньні ў жыцьцё нацыянальнай палітыкі, надзвычайна прыхільна былі сустрэнуты на тэрыторыі Саветаў і знайшлі надзейны грунт сярод жыхарства Савецкай Беларусі.

Пэрэпэктывы надта шырокія, цяжка адразу справіцца з такімі заданьнямі, як перабудова ўсяго адміністрацыйнага апарату і выкарыстаньня ўсіх магчымасьцяў з боку культурнага. Не хапала ані кваліфікаваных, ані звычайных працаўнікоў, каб абхапіць усе найважнейшыя галіны жыцьця. Папярэднія гады імпэрыялістычнай вайны, акупацый — нямецкай і польскай, ня спрыялі эканамічнаму і культурнаму ўзросту багацьцяў бацькаўшчыны. Беларусь толькі руйнавалася да шчэнту. Пачынаючы ад 1914 году, уся Беларусь зьяўляецца ваеным пляцдармам, раздзёртай на дзьве часткі; аб культуры ня толькі беларускай, але і агульнай, няма чаго казаць, з гэтага боку жыцьцё спынілася і нават старых працаўнікоў раскідала па ўсём сьвеце.

Ня гледзячы на ўсе такія адваротныя бакі, патэнцыйная энэргія была значная, а выбіўшыся з пад споду, замацоўваецца, як улада рабочых і сялян, беларускі адраджэнскі рух пачынае разгортвацца з сілай спружыны. Якое-ж адношаньне да беларусізацыі Савецкае ўлады? якія-ж зроблены дасяганьні за гэты час,

якія перашкоды і спрыяючыя варункі да беларусізацыі надалей і пэрспэктывы на будучыню?

Перад намі матэр'ялы IX з'езду компартыі Беларусі і Пленума Ц.К. К.П.Б. па нацыянальнаму пытаньню. Шмат чаго характэрнага для ўяўленьня напрамку нацпалітыкі і прагнозу на далейшае яны даюць, таму крыху супынімся на іх, выдзяляючы толькі тое, што сьцісла датычыцца нашае тэмы.

Вось выпіскі з рэзалюцыі Пленума Ц.К. К.П.Б. «...4 Поруч з першачарговай задачаю гаспадарчага адраджэньня краю, важнейшае значаньне мае праца па пераводу справаводства дзяржаўных, партыйных і прафэсыйных арганізацый на родную мову жыхарства, на заснаваньне школы на матчынай мове...

...5 За пару пасьля Пленуму (студзень 1925 г ), частка установ і арганізацый — партыйных, савецкіх, прафэсыйных і г. д., як у цэнтры, гэтак і на мейсцох перавялі сваю працу на беларускую мову. Аднак агулам, беларусізацыя установ зьяўляецца найбольш кволым мейсцам у сыстэме нацыянальнае працы, як з прычыны спазьненьня яе ў-ва многіх выпадках супроць вызначаных тэрмінаў, так і з прычыны таго, што яна часта мае павярхоўны і фармальны характар. Апрача аб'ектыўных прычын, гэта зьявішча тлумачыцца тым, што дзяржаўны апарат, зрусіфікаваны ў мінулым, яшчэ да гэтае пары ня вызваліўся ад вялікадзяржаўных паглядаў і тым, што кіраўнікі апаратаў ня робяць належнага уплыву.»

З апошніх асабліва выразаў відаць сумленны падыход да самай істоты справы, калі компартыя не заплюшчывае вочы, паказваець на абмылкі і гэта даець пэўную надзею, што перашкоды ў нацпалітыцы, як спадчына ад старога сьвету будуць зусім выжыты. І запраўды мы бачым, як яны паступова выжываюцца.

Яшчэ X з'езд Компартыі і асабліва XII, зьвярталі увагу на вялікадзяржаўны шавінізм, уласьне як спадчына ад царызму якая:

«...да гэтага яшчэ часу застаецца ў галавах нашых работнікаў, цэнтральных і мясцовых, яшчэ маюць пабыт у дзяржаўных установах, цэнтральных і мясцовых, і часамі ўзмацняюцца ў зьвязку з нэп'ам, як «новыя» зьменатычніцкія вялікаруска-шавіністычныя уплывы...».

«Шматнацыянальная Савецкая дзяржава можа зрабіцца толькі тады моцнай, а супрацоўніцтва народаў толькі тады братэрскім, калі ўсе гэтыя перажыткі будуць вытраўлены з нашых установ рашуча...»

«Рашучае змаганьне з перажыткамі вялікарускага шавінізму зьяўляецца першачародным заданьнем нашай партыі» (Рэзалюцыя XII з'езда Компартыі па нац. пытаньню п. 7.).

Вось адношаньне Савецкай ўлады да нацыянальнага пытаньня. Так рашуча і радыкальна, ня пакідаючы жадных сумляваньняў у шчырасьці, можа справу ставіць толькі рэвалюцыйная партыя, сьвядомая ў праваце сваіх думак і знайходзячая падклад у запраўднасьці аднашаньняў у гэтай справе. І сьмеюць пасьля

гэтага розныя Сялянскія Нівы, Крывічы, Крыніцы, не гаворачы ўжо аб дэфэнзыўшчыках, каркаць, што ў Саветах робіцца якісьці нацыянальны уціск. Відаць справа ня ў гэтым. Відаць, што сярод беларускай інтэлігэнцыі таксама ня выжыты старыя разуменьні, выплываючыя з ідэалёгіі дробна-буржуазнага дэмакратызму. Мы не павінны замоўчываць, што і ў нацыяналізме малых народнасьцяў ёсьць шмат хвараблівага, недарэчнага, якое не дазваляе глядзець на рэчы проста, а абавязкава скрозь дробна-мяшчанскія акуляры. Укладаючы буржуазна-ідэалёгічны зьмест у нацыянальнае пытаньне, яны пытаюцца скампраміставаць усю нац. палітыку Саветаў, каторая і ў гэтым пытаньні, як і ў-ва ўсіх іншых, выходзіць ад аднае падставы — карысьці для рабочых і сялян, адкідаючы усё тое, што дае магчымасьць буржуазіі адурманіваць іх.

Мы павінны падкрэсьліць, што і беларускі шавінізм, ёсьць настолькі-ж шкадлівае зьявішча, як і вялікарускі шавінізм; і тут трэба з гэтымі памылкамі так сама рашуча змагацца, аб чым XII з'езд і Пленум К.П.Б. у кастрычніку 1925 г. гавораць. Толькі разьвіцьцё нацыянальнае культуры ў інтарэсах працоўных; — ёсьць нашая справа, — рэшта недарэчны перажытак і патрабуець гэткай-жа барацьбы.

Пагледзім-жа як спраўляецца К.П.Б. на мяйсцох з пастаўленным заданьнем; якія дасягненьні за мінулы час. Пленум Ц.К. К.П.Б. адзначае пасьпехі, зробленыя за год у розных галінах працы па беларусізацыі. Пералічым важнейшыя з іх: значны паступовы працэс беларусізацыі пачатковае і сярэдняе школы; перавод на беларускую мову другога канцэнтру навучаньня ў ранейшай Беларусі, і другога і трэцяга году ў далучанай; з вышэйшых навуковых устаноў на беларускую мову перайшлі першыя курсы рабфаку і некалькі катэдраў на аснаўных факультэтах; поўная беларусізацыя пэдагагічных тэхнікумаў; узмацненьне савецкіх і партыйных школ; павялічэньне проценту беларусаў у вышэйшых навуковых установах; узрост беларускае кнігі; павялічэньне проценту беларусаў у складзе выбарных органаў усюды (вал. вык. ком. з 75% да 80%, у сельсаветах замест 84%—91%; у акружных камітэтах замест 48%—65% і г. д.*) У вайсковым апараце таксама пачынаецца беларусізацыя і адзначаецца пасьпехамі; падрыхтоўваецца да беларусізацыі II тэрытарыяльная дывізыя і аб'еднаная ваенная школа — (пэдагагічны пэрсанал і камандны склад на 45% ужо ўладаюць беларускай мовай, а курсанты на 60%; тэрытарыяльная дывізыя з 41% мінулага году да 61%, а агульна ў камандным складзе замест ранейшых 25% уладаюць 50%**). Важным здабыткам зьяўляецца прыкметнае пасламбленьне варожасьці да беларусізацыі сярод шырокіх грамад жыхарства і згуртаваньне кадра настаўнікаў і перадавікоў сялян, якія шчыра адданы справе беларусізацыі.

---

*) Лічбы прыводзяцца з дакладу т. Крыніцкага на сходзе Актыву Менск. Арг. К.П.Б. 15. X. 1925 г.

**) Лічбы з дакладу т. Крыніцкага.

Ня гледзячы на ўсе пералічаныя дасягненьні, Пленум уважае, што справа беларусізацыі ёсьць толькі пачатак далейшага роськвіту. Разам з гэтым зазначаюцца і памылкі ў пастаноўцы і правядзеньні працы па беларусізацыі, а ўласьне: 1) нязусім дасьціпнае плянамернасьць і арганізаванасьць працы; 2) недахватка партыйнай і масавай сялянскай літэратуры: 3) не наладжанасьць працы нац. камітэтаў; 4) няўсьведамленьне і маруднасьць выкананьня дырэктыў у студні 1925г. аб літэратурнай мове.

Далей Пленум выказывае шэраг пажаданьняў і практычных мераў у правядзеньні беларусізацыі. Надзвычайна вялікае значаньне надае Пленум Інстытуту Беларускай Культуры і Краязнаўчым Таварыствам; заўважывае патрэбнасць у тэрміналёгічнай працы, апрацаванай на аснове жывой мовы беларускай вёскі; партыя мусіць упарта змагацца з шавіністычнымі паглядамі на беларускую мову, нібы-та «штучную». Патрэбна цэнтралізацыя курсаў беларусазнаўства пры Галоўпалітасьвеце. Адзначаецца патрэбнасьць павялічыць выданьне палітычнай літэратуры на бел. мове, а таксама скарочанага выданьня твораў Леніна; прапануецца перавесьці прыблізна $^{1}/_{4}$ частку кожнага № «Звезды» на беларускую мову; «Савецкая Беларусь» мусіць быць пашырана і палепшана, а «Полымя» і «Маладняк» папоўнены тэарытычнымі аддзеламі; вызнаецца патрэбнасць выдаваць газэту для вёскі і наагул масавай літэратуры для вёскі. Пленум зварочывае увагу на беларусаў рабочых, прапануе іх вербаваць у партыю і вызначаць на адказныя пасады ў профсаюзах.

Вось голае пералічэньне праграмы працы Компартыі Беларусі па нацпалітыцы на 1926 год, паказываючае, як уважліва і прыхільна яны адносяцца да беларусізацы..

Цяпер пяройдзем да ілюстрацыі, пагледзім у кароткім нарысе чаго мы дасягнулі, зварочываючы асаблівую увагу на стан культурна-асьветнага боку. Згодна пастанове Ц.В.К. Беларусі ад 15 ліпня 1924 г. беларуская мова вызнаецца пераважнай для зносінаў паміж дзяржаўнымі, прафэсыйнымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі, і таму ўсе вышэйшыя цэнтральныя установы Б.С.С.Р. мусяць перавесьці сваё дзелаводства на беларускую мову ў працягу ад 1 да 3 гадоў, чым бліжэй установа да жыхарства, тым тэрмін даецца карацейшы. Такім чынам тэрмін на беларусізацыю устаноў па сацыяльнаму выхаваньню вызначаны ў 3 гады, для палітычна-прасьветных устаноў і проф. тэхнікумаў у 5 год. Да студня 1925 году на беларускую мову перайшоў толькі Нарком. Асьветы, частка аддзелаў НарАсьветы і прыблізна $^{3}/_{4}$ апарату Ц.В.К. Цяпер-жа (кастрычнік 1925) на беларускую мову пераведзены ўвесь Ц.В.К. і яго камісіі Саўнарком, Дзяржаўнае Выдавецтва, уся Калінінская акруга з усімі аддзеламі і вясковымі Саветамі.

З профсаюзаў у працягу гэтага году цалком беларусізаваны саюз РабАсьветы, саюз Раблеса і рыхтуецца ў неўзабаве перайсьці і НарСувязь. Самы лік беларусаў у профсаюзных установах павялічыўся замест 39% мінулага года (1924) да 46% цяпер. За-

ўважым і значны ўзрост беларускага элемэнту на выбарныя пасады ў К.П.Б. з 30% да 48%; камсамол налічывае з агульнага ліку замест 63% ужо 70% беларусаў.

У той час, як польская ўлада стараецца задушыць беларускае слова, прымушае вучыцца ў польскіх школах, і калі, што ёсьць культурнага беларускага пад Польшчай, дык гэнае нямногае заваёвана ўласнымі беларускімі сіламі, нязлічанымі ахвярамі ў змаганьні за гэтую культуру, Савецкая улада заўсёды зьвяртала увагу на разьвіцьцё гэтых галін сярод працоўных гушчаў. Цяпер гэтая магчымасьць узрасла бязьмерна.

Узрост сьвядомасьці, шырокая школьная сетка патрабавала значнага ліку беларускай літэратуры, асабліва падручнікаў. Выдавецтва задаваляла гэтыя патрэбы ў значнай меры і ў параўнаньні з мінулым годам надзвычайна вырасла і па колькасьці выданьняў, і па разнастайнасьці і нават з боку мастацкага аздобленьня. Вось лічбы, параўнаньні робяцца за час 1. X. 1924 — 1. X. 1925 г.

У 1923—1924 г. выдана агулам 535.750 экз., з каторых на беларускай мове 250.500 экз.; а у 1925 г. — 1.579.500 экз. у тым ліку на беларускай мове аж 1.432.000 экз. (жыдоўскай 63.000; расейскай 53.000; польскай 31.000). Лік назоў кніг складае 141 кнігу пры 842 друкаваных аркушаў, значна на адну кнігу прыйходзіць у сярэднім 6 аркушаў. Сюды не ўвайшлі пазаплянавыя выданьні (насьценныя табліцы, плякаты, гэаграф. мапы і інш.) усяго 121.000 экз. Апрача гэтага яшчэ часопісі на беларускай мове: «Полымя», №№ 7 па 12 арк. (14,000 экз.), «Маладняк» №№ 4 па 6 арк. (12.000 экз.). Што датычыцца да тыражу паасобных выданьняў, дык ён рожны, для прыгожага пісьменства 1.000—5.000 экз., для падручнікаў даходзіць да 50.000 і нават 100.000 экз.

Адно з найважнейшых пэдагагічных заданьняў, вучыць дзіця ў зразумелай яму мове — матчынай; толькі тады яго духовае жыцьцё правідлова разьвіваецца, выяўляюцца ўсе здольнасьці і пачуцьцё вучня. Гэтага прынцыпа прытрымліваецца Савецкая пэдагогіка, асаблівую увагу зварачывае на пачатковыя школы. Сучасная сетка 4 гадовых працоўных школ на ўсіх 10 акругох Б.С.С.Р. налічывае разам 3.767 школак, з якіх у 3.533 выкладаньне йдзе на беларускай мове; такім чынам лік беларускіх школак досьць значны і прыблізна адпавядае % беларускага жыхарства; большасьць з іх — быўшыя расейскія школы, перавод іх рабіўся паступова, і да гэтага часу далёка ня ў-ва ўсіх выкладаньне вядзецца па беларуску усе чатыры гады, асабліва ў тых, якія далучаны да Беларусі пастановай Усесаюзнага Ц.В.К. 4 лютага 1924 г. З ліку 3.573 беларускіх школак, толькі поўнасьцю беларускія 1.005; у 1315 беларуская мова выкладаецца ўсяго адзін год, у 881 — два гады і 333 — тры гады (глядзі Баліцкага «Полымя» №№ 4, 5 1925 г.). Трэба зазначыць, што на тэрыторыі старое Беларусі беларусізацыя вялася ад самага пачатку існаваньня Савецкай улады, з 1919 г., і таму усе школкі там поўнасьцю беларускія. Што датычыцца да далучаных у 1924 г., дык лічбы аднагадовага і трохгадовага выкладаньня беларускае мовы адносяцца, галоўным чынам, да іх.

Лічбы і фактычны матэр'ял, як аб школах, так і наагул па культурна-асьветнай справе пададзены, пераважна з артыкулу проф. А. Баліцкага у №№ 4 і 5 «Полымя» за 1925 г. З багатага яго матэр'ялу мы прыводзім толькі скарочаньня, прычым мусім адзначыць, што гэтыя матэр'ялы абхаплібаюць толькі 1924 г. да канца, і можа толькі крыху 1925г. З таго часу беларусізацыя шпарка пасунулася на перад, але мы, на жаль, ня маем пад рукамі сьвяжэйшага матэр'ялу.

Другі тып школы — сямёхгадовая працоўная школа. З агульнага ліку 267 такіх школак на беларускія прыпадае 190 (жыдоўскіх — 42, расейскіх — 29 і інш.). Ня ўсе яны поўнасьцю перайшлі на беларускую мову. Сустракаемася з падзелам на школы ў межах старой Беларусі, і на тэрыторыі далучанай. У апошняй выкладаньне на беларускай мове вядзецца адзін-два гады. Вось лічбы: у першай клясе — 48 шк.; у двох клясах — 32 шк.; у трох — 61; у чатырох — 49; у пяцёх — 2; у шасьцёх — 5 і поўнасьцю ў сямёх клясах толькі тры. Тлумачыцца гэта галоўным чынам адсутнасьцю кваліфікаваных пэдагогаў, добра ведаючых беларускую мову і недахватам падручнікаў для старшых клясаў, каторыя толькі з 1925 г. пачалі друкавацца.

Наркомасьветы зьвярнуў на гэта увагу і згодна пляну, з 1925—1926 акадэмічнага году, цалком на беларускую мову пяройдзе другі канцэнтр сямігодкі старой Беларусі, і першы канцэнтр у далучаных частках. Прыняты ўсе крокі, каб здаволіць належнымі падручнікамі. Апрача ўсяго гэтага ў 1924—1925 г. выпушчаецца да 300 чалавек з усіх пэдтэхнікумаў, пэдфаку, вышэйшых курсаў беларусазнаўства. У выхаваньні дзяцей важнае значаньне маюць дзіцячыя дамы і сады. Дзіцячых дамоў усяго ў Б.С.С.Р. — 81, з іх беларускіх — 32; з 40 дзіцячых садоў, выключна істнуючых, пакуль што, толькі ў гарадох — беларускіх — 11.

Беларусізацыя ў тэхнікумах і ВУЗ'ах праводзіцца ад самага пачатку іх істнаваньня. Маецца 6 беларускіх пэдагагічных тэхнікумаў. З агульнага ліку выкладаемых гадзін лекцый, на беларускай мове ў менскім пэдтэхнікуме прыпадае 92,5%, рагачоўскім — 71%, і г. д. Горш справа стаіць з ВУЗ'амі, перавесьці каторыя на беларускую мову ня маючы выстарчаючага ліку выкваліфікаванага лектарскага складу, заданьне надта цяжкае і патрабуючае большага тэрміну. Але і тут шмат што зроблена і ў незабаве карціна зьменіцца, а тым часам ў-ва ўсіх ВУЗ'ах з 1924—1925 году ў праграму ўваходзіць шэраг прадметаў, якія датычацца Беларусі, асабліва-ж такі краёвы ухіл праводзіцца ў Дзяржаўным Унівэрсітэце на пэдагагічным факультэце. Гаспадарская Акадэмія прынцыпам таксама ставіць будаваць усю сваю працу на мяйсцовым матэр'яле.

Найважнейшым асяродкам, як навукова — дасьледчай установай, так і культурна-грамадзкай, зьяўляецца, канешне, Інстытут Беларускай Культуры. Гэтая вышэйшая культурна-навуковая інстытуцыя па тыпу Акадэміі Навук, ня гледзячы на цяжкае матэр'яльнае становішча, што адбівалася на працы Інбелкульта,

ён прарабіў значную працу за гэтый час. Галоўная яго праца была апрацоўка літэратурнай мовы. Інстытутам апрацавана тэрміналёгія і прыступлена да складаньня расейска-беларускага слоўніка, для чаго і выдзяліў сталую камісію, якая да гэтага часу сабрала на картачкі больш за 40.000 слоў, выбраных літэратурных твораў XIX і XX стагодзьдзяў, і асаблівую увагу зварачывае на жывую беларускую мову; праца абхопіць усю этнаграфічную Беларусь ня выключаючы і часткі яе пад Польшчай. Другая праца Інбелкульта — арганізаваньне навукова-дасьледчых экспэдыцыяў — этнаграфічных і археалёгічных.

Якую увагу надае ўлада працоўных Інбелкульту сьведчыць яскрава тое, што на 1925—1926 г. каштарыс гэтага інстытуту, зацьверджаны па дзяржаўным бюджэце, складае 216.698 руб., у параўнаньні з мінулым павялічыўся больш чым на 400%, а з 1923—1924 у 31 раз больш. З гэтай сумы на аплату навуковых працаўнікоў вызначана 56.245 руб., на выдавецтва — 56.000 р., на навуковыя камандыроўкі і падарожныя выдаткі — 13.800 р., на навуковыя экспэдыцыі — 24.000 р. і на іншую навуковую працу І.Б.К. — 35.900 р.

Мы праглядзелі дасягненьні беларускай культуры ў-ва ўсіх больш-меньш важных галінах, праўда ў надта кароткіх рысах, на колькі дазваляе разьмер стацьці, зусім не закранулі беларускае мастацтва, тэатр і інш., а так сама аб працы краязнаўчых гуртоў, спадзяючыся гэтаму пытаньню прысьвяціць асобны артыкул. Тым самым усіх жадаючых дэтальна пазнаёміцца з беларусізацыяй культурна-асьветных устаноў у Б.С.С.Р. адсылаем да працы А. В. Баліцкага ў №№ 4 і 5 «Полымя» за 1925 г., надта важных і цікавых.

Вось-жа бачым, што зроблена ня мала. І дзіўна, што паны з Сялянскіх Саюзаў і Крыніц гэтага ня бачаць, а зроблена столькі, што і ня сьнілася некалькі год назад.

«Зроблена мала ў параўнаньні з тым, што хацелася, і шмат, калі параўняць з мінулым годам», заўважывае Пленум Ц.К. К.П.Б. ад 14. X. 1925 г. Але прыкладаюцца усе высілкі, каб запоўніць гэтыя недастачы, каб зламаць усе перашкоды, якія стаяць на шляху да астатняга зьдзейсьненьня пастаноў з'ездаў.

Мы вось прыйшлі да перашкод, якія-ж перашкоды ў правядзеньні нацпалітыкі? Многае відаць з папярэдняга. Гэта перажыткі, як вялікадзяржаўнага, так і мяйсцовага шавінізму, якія і зьяўляюцца тымі сьпіцамі ў ходзе савецкай працы. Сюды далучым яшчэ недахват кваліфікаваных працаўнікоў, што адчуваецца ужо на працягу ўсей працы па беларусізацыі. У роўнай-жа меры перашкодай служыць недахват, як навуковай тэрміналёгіі, так і падручнікаў для школ сярод нацыі, дзе усё трэба пачынаць нанова. Адчуваецца недастача выданьняў па савецкаму выхаваньню, з чым таксама вядзецца змаганьне. Ёсьць і другія драбнейшыя перашкоды, якія пералічываць ня будзем. Савецкая ўлада сьвядома ўсіх гэтых недахопаў і вязде з імі рашучую барацьбу, якая прасьледжана на працягу артукулу.





Савецкая ўлада паставіла нацпытаньне на чаргу дня і рашуча праводзіць яго ў жыцьцё.

З усяго гэтага можна сьмела сказаць, што нацыянальнае пытаньне ў С.С.С.Р. стаіць на запраўдным клясавым, работніцка-сялянскім грунце, і з гэтага боку бязумоўна ў нас стаяць шырокія пэрспэктывы на будучыню. Пэўная ў правеце сваіх думак і выходзячы з прынцыпаў клясавага змаганьня Савецкая ўлада давядзе і нацыянальнае пытаньне да лёгічнага канца, г. е. пакуль працоўныя ўсіх нацыяў ня змогуць задаволіць свае культурныя патрэбы на роднай мове ў поўнай меры і калі кожная Савецкая рэспубліка будзе, кажучы славамі Сталіна «нацыянальнай па форме і пралетарскай па зьместу.

Уся чэсна думаючая беларуская інтэлігэнцыя з папярэдняга павінна зразумець, што толькі ў С.С.С.Р. нацыянальная справа пастаўлена рашуча на парадак дзенны і толькі там, у Савецкай Беларусі, ёсьць кузьня беларускае культуры. Толькі пры Савецкай уладзе яны могуць прылажыць свае сілы з найвялікшай карысьцяй, як для разьвіцьця нацыянальнай культуры, так і для шчасьця свайго народу.

*Культурнік.*

па жаль атрыманыя сьвежыя матэр'ялы не маглі быць выкарыстапы з тэхнічных прычын.

---

*З ВОЛЬКЕРА.*

1 ***

На шпітальнай пасьцелі праменьні падуць,
А трывогу іх чую ў абвязах, тканіне...
Там сябры на змаганьне за праўду ідуць,
На змаганьне ідуць і ніхто не запыне!

На шпітальнай пасьцелі праменьне гарыць
Але сьмерць падыхае з закуткаў напасьцю...
О, чаму не магу ісьці з вамі, сябры!
Чаму мушу ўміраць, калі прагнуў упасьці!

2. ПЕСЬНЯ КАХАНЬНЯ.

Кажаш, што толькі ў тваіх вачох — цэлы сьвет,
Што для мяне няма нічога па-за імі.
Хмарынкі плывуць вачыма тваімі,
Белыя яблыні цьвітуць,
Птушкі лётаюць, пяюць.

Я веру —
І ня веру.

З вялікім болем вочы твае ламаю на часьці.
Каб ізноў абвіў мяне ланцуг вясёлкі.

Скажы мне, маё каханьне,
Калі ўвесь сьвет у вачох тваіх зьмясьціўся,
Чаму дапусьцілася толькі,
Каб работнік раніцай сёньня упаў з рыштаваньня
І на маіх вачох
Забіўся.

Перекл. *У. Жылка.*

## АЛЬБІГОЕЦ.

Прыйшоў ка мне той, раскрыжаваны, здань,
Што сном несьмяротнасьці муча стагодзьдзі.
Быў твар яго ясны, як летняя рань,
І йшоў ён, як дзень сьветлакосы прыходзе.

Пастукаў: — «Каханьнем сваім надары!»
Ды толькі стрывожыў у сэрцы дакуку.
Штурхнуў я праклёнам яго па твары
І высыпаў лаянку ў руку.

«Ізноў ты гукаеш! Манюка, ізноў?!
Ды маем тваіх абяцанак даволі!
Збавеньне суліў ты, збавеньне людзеў
А ў нас, як ад веку, пакута і болі.

Пакінь! не дратуй мяне! Ў чорнай душы
Зьненавісьці келіх хвалюе няўпынны.
Ты зло — дабрадзейнасьць маю — ня глушы.
Хвалюся: — я дрэнны, я злосны, злачынны!

Высокае праўды й збавеньня твайго
Дарожай зямля мне з Грахом і Аблудай
І шчасьней ад раю і ўцехаў яго
Мне ночы з апошняй паскудай!

Мой востры ня хібіць за працай штылет,
І славай крывавай, разбойствам вядомы
Я ўсенькае нішчу, дзе толькі твой сьлед
І чыну свайго я сьвядомы!

Паслухай! сьвятое у справах тваіх
Даводзіць мой сум, маё гора к адчаю.
Дарэмныя рожы ад ранаў сьвятых,
Дарэмны твой шлях крыжавы — пагарджаю!

Якае пацеха другое жыцьцё?
Пацеха нябескай заплатай дабротьі?
Як сьмерць, неадгучна маё пачуцьцё
Мой рогат з авечае цноты!

Ня хочу нябёсаў!.. Людзкога ты — кат!
У цябе мая ярасьць і злосьці каменьні
Я — багна, смырод; я поўзаю — гад,--
Цябе-ж праклінаю ў маім паніженьні!

А можа блюзнерства даруеш? А мо'?
Ты поўны пакоры, каханьня бяз зыску!
Ды толькі на што мне здалося! Дармо!
Плюю табе ў ціхую пыску!»

1925 г. *Уладзімер Жылка.*

## ПРАСТЫТУТКА.

Каму жыцьцё атруты келіх,
Хто спраняверaны, як я,
Хто ўжо ня сьніць аб далях, белях
Пад ветра сьвіст і шум быльля;

Каму спакой душы няшчаснай —
Нездаваленьня точыць крот;
Каму дакучыў жонкі ўласнай
На ўласным ложку пешчаў лёд;

Каму распачна ноч пустую
Спакусным сьмехам цешыць сук;
Каму ўсяроўна, бы якую
Сьціскаць пярсьцёнкам млявых рук;

Хто сэрца — поўную амфору —
Нясьці стараўся й не данёс;
Хто патаемных мукаў хвору
Гаіў расою начных сьлёз;

Хто душу чорную, як вугаль
Злачынствам цешыў і крывёй;
Хто п'яніца, разбой, зладзюга
З мізэрнай, дробнаю душой;

Каму распусты жах прынадны;
Хто гора топіць у віне; —
Маім абоймам тыя жадны,
Прыходзяць тыя да мяне.

Я ўсіх вітаю ветла, рада, —
Хто-б ён ні быў, хто ён ні ёсьць;
Мае жаноцкія прынады
За плату мае ўсякі госьць.

Я імітую ім каханьне
Ім ня суджонае праз лёс;
Нясьмелыя дзяцей спатканьні
І палкасьці глухі наркоз.

Змушаю верыць мімаволі
І жар збуджаю малады
Сама няўзрушная ніколі,
Сама халодная заўжды.

Ў душы адзін, адзін лятунак
Глыбока схованы на дне —
Далёкі любы — мой пястунак —
Той, хто кахаў калісь мяне.

Які ня сьмеў, ня сьмеў ні разу
Свае мне пешчы даравць,
Якога мела за абразу
Ў дзявочых думках цалаваць.

Цяпер і ён так-ж прапашчы,
Ланцуг жыцьця цягае ледзь;
Ніхто, ніхто яго ня лашчыць,
Лёс прысудзіў яму гібець.

Цяпер, як кожны ён, як кожны —
Будынак зьнішчаны, пусты;
Час папаліў усё, што можна,
З кута прыбраў абраз сьвяты.

Ды сэрца сьніць пад шум васеньні.
І сну мне ня мінуць таго.
Ў маім найбольшым паніжэньні
Сустрэну неўнарай яго.

У сэрцы будзе боль і горач
І мы два целы, дзьве труны,
Мы рукі сьцісьнем, ляжам поруч
І аб мінулым будуць сны.

Як вербалозы нікнуць вецьцям,
Так нізка схіліцца ўспамін
Над нашым страшным ліхалецьцем
І над канцом далёкіх дзён. —

1926. *Уладзімер Жылка.*

---

*Іэ́сл Вольчер.*

# Служка.

Прадмеская танцавальная саля «У Галёўзку» стаяла на рагу вуліцы, а усе шэсьць вокан вялі на вольны абшар, які праэктаваўся пад будучы пл ац. Але да гэтуль там ня было нічога такога, што прараджывала-б будучы маестат гэтага мейсца — ды наадварот — гурбы сьмяцьця, струхнеўшыя будкі, поўныя дашчок і хламу і некалькі вельмі смутных дрэў, якія хоць цьвілі цэлы год, але толькі сажаю і пылам.

Калі-ж пачынала сутунець і гэты пусты абшар ахінваўся імглою, абрысы будак і дрэваў выдаваліся, а трамвайныя рэйкі нацягваліся ў гразі, як забітыя вужы.

Сёньня аднак субота і «У Галёўзку» пан Франц запаліў тры лямпы, дакладна пры гэтым забрудзіўшы ручнік, які ўжо цэлы тыдзень звісаў з яго кішэні. Шэсьць вокан выкінулі на мокры тратуар шэсьць мокрых сетак, а ўласьнік лёкалю пан Галёўзка ўсеўся за буфэтам, падобны разам і на рыбалова і на спужаную рыбу.

У сьветлую сетку пачалі пападацца праходзячыя — самотныя і грамадамі. Памочнікі разьнікоў і шаўцоў, беспрацоўныя, басота, работнікі з Чэскамараўскага заводу, сёньня ў суботу ўмытыя і прычасаныя, дзеўкі з вуліцы, швачкі а найбольш служкі, якія ўжо памылі вокны, сходы, сытыя талеркі і мелі, як кажуць, «фрай».

Мажка прыйшла сёньня амаль а палова дзесятае. Пані яе раней ня пусьціла. Заўтра маецца прысьці ў госьці пан рада і тут трэба прыгатаваць бліскучыя шкляначкі, абцерці пыл з місак, пераставіць усё дакладна ў салёне і паставіць ізноў назад і наагул пакінуць на заўтра толькі варэньне абеду. Пасьля: Мажка мусіла пісаць да хаты ліст — ліст які ня меў словаў болей, як сходаў, якія рана памыла, але даў шмат болей клопату, бо сходы мыюцца раз на тыдзень, і зараз-жа забруджываюцца, а словы ліста мусяць быць чыстымі, найчысьцейшымі, бо дома будуць па іх хадзіць дзьве пары добрых вачэй праз цэлы месяц.

Але дзякуючы гэтаму сталася так, што Мажка ўвайшла ў салю

бадай апошняя; Войта яе не чакаў. Ні ля варотаў, ні на розе, ні ля ўходу ў салю. Войта быў кананірам, а тыя — пунктуальныя. Калі скажуць — у восім гадзін — так у восім на мейсцы. Але так сама болей чвэрці гадзіны не чакаюць. Пасьля кашараў час для іх ёсьць найдаражэйшым багацьцем. Ня здолюець яго праморгаць доўгім чаканьнем.

Будзе мяне чакаць у сярэдзіне — думала Марыя. Але аднак было ей брыдка, калі сама купляла сабе ўваходны білет. А гэта таму, што заўсёды хадзіла з «франтам», што «франт» размаўляў з касіеркай і «франт» плаціў. Касіерка мела няпрыемныя вочы і Марыя пераступаючы парог, пачувала, што мае калені аддушаныя ад мыцьця падлогі.

Цяпер пачалося расшукваньне. Хоць ніколі ня была ў адвечным трапіцкім лесе, але ведала яго добра. Гушчар людзкіх торсаў, жоўтыя кветы піўных шклянак, чырвоныя ягады вінаў, хмары дыму, гучны цыклён музыкі, перагарэлыя аблічча — усё гэта, што ў танцавальным салі «У Галёўзку» буяла, віхрылася, зьміталася і хрустала — было больш патаемна і палюча, чым усе пушчы на экватары. Марыя шукала Войту, як вандраўнік свой шлях, праціскалася паміж напіханых сталоў, праз сотні гадавых небясьпечнасьцяў, ішла над бяздоньнямі, вокала падпільноўваючых шэльмаў — але Войты ня было. Заблудзілася. Бог запамятаў яе і яна самотная паміж людзей. Прысела за стол на розе, склала сваё цела ў раз'ехаўшаеся крэсла, нібы зьбіралася пераначаваць у гэтай нязнаёмай краіне — і папрасіла шклянку піва.

Перш каўтанула, нібы з-пад цішка, але калі выпіла паўшклянкі набыла нейкай пэўнасьці. У скочным коле пазнала двух-трох сябровак. І Ліда камісаравых была тут з новым «франтам» і разчухраная Ганка, што служыць насупроць у Вэйчыхаў. Потым пазнала таго старога пана, што сьмяецца з яе, калі часамі спатыкае яе на рынку — а калі дапіла шклянку, пачувала, што ведае ўсіх людзей, якія перад хвіляю былі для яе незнаёмымі і страшнымі.

Войта мог пачакаць, думала сабе — і гэта яго віна. Я ў нядзелю яго так сама чакала. Магчыма, што зазлаваў — хто ведае — ён стары дзікун. Магчыма так сама, што бачыў мяне пазаўчора з тым худым краўцом, што так прыгожа сьпявае пад гітару. Ці пайшоў з другою?

Было гэтулькі магчымасьцяў, а Марыя перабірала іх, як пацяркі ружанцу. Прызнаўшы, што на канцы ўсіх тых магчымасьцяў — крыж — спыніла малітву, уздыхнула, але потым памыла свой разлад, як брудную пасуду, бо была служка і кахала чыстату і бліск у свёй кухні. Згадала на букет кветак, што сёньня зраньня бачыла на рынку і маладая радасьць разьлілася ў яе грудзёх і вуснах і яна прамовіўшы ціха «хай сабе!» азірнулася навокала засьвяціўшыміся вачыма.

І так сталася, што яе весьняны імклівы пагляд спаткаўся з вачамі чужынца. Але — быў гэта чужынец, адзіны чужынец у салі. Уся рэшта, нават каго ніколі ня бачыла, былі тутэйшыя, гэты адзіны быў чужы. Таму, што сядзела да яго сьпіной і раней

яго ня бачыла? Не — . Тут было штосьці зусім іншае. Цэлая яго пастава, вопратка, рукі, нат гузікі ў манжэтах, адрожнівалі яго гэтак ад рэшты, што Мажку аж мароз працяў, калі пабачыла яго. Найдзіўнейшымі аднак былі яго вочы, калі іншыя адбівалі ў сабе бліскучую радасьць салю — гэтыя вочы, як дзьве ня жывыя скалы каменна выступалі над бледым лобам. Цьма перад імі, цьма за імі. А ўсё-ж ухапілі сэрца Мажкі прудка і гвалтоўна. Або не — не ўхапілі — зваліліся на яе.

Хто гэта мае быць? думала сабе Мажка. Запраўды чужынец. Ужо не азірнуся.

Палажыла рукі сабе на грудзі, але там біла, як молатам. Зноў зьявіліся перад яе вачыма кветы сёньняшняга ранку, зноў завіхрылася целам кроў. Напасьледак сказала сабе: «Дык гэта так сама чалавек» і абярнулася да яго бяз усякіх прадасьцярогаў.

Чужынец устаў ад свайго стала і падыйшоў да яе.

«Дазволю сабе прысесьці, слечно?»*) Голас меў аксамітавы і мягкі, як канапа. Зірнула на яго зусім коратка і была ў роспачы.

«Каб мы ня сядзелі гэтта самотнымі. Вы тут — я там. Разам нам будзе весялей. — Ці магчыма каго чакаеце?» дадаў, калі стала не адказывала.

«Ды не» прамовіла Мажка і хутка закруціла галавой. Чужынец усеўся і паклікаў буфэтчыка.

«Што жадаеце — віно ці піва?» запытаўся яе.

«Дзякую, я ўжо піла», мягка зашапатала.

«Яшчэ адно — для знаёмства».

Не хацела, бо круцілася-б галава. Не рэшце ўсё-ж дазволіла прынесьці шклянaчку віна.

Стукнуліся чаркамі і выпілі. З гэтае хвілі зачапілася Марыя за скаловыя вочы чужынца, як горская расьлінка. Знайшла ў іх даволі грунту, каб расьці й цьвісьці.

«Вы так сама адзін тут?» пыталася.

«Я — зусім адзін» адказаў. «Зусім адзін у цэлай салі, акрамя вас, ня ведаю нікога».

«Напэўна — вы ня тутэйшы?»

«Не, слечно. Прыехаў здалёк».

«Цэлы сьвет праезьдзіў. На рэшце быў у Ріо-Жанэйро ў гандляра каваю. Так сама быў у Афрыцы і Азіі».

Чужынец вырас да столі і Марыя схапілася за стол.

«Так далёка» — запытала. «А на вошта?»

«Шукаў занятку. Знайходзіў яго усюды і нідзе. Ня утрымліваўся на адным мейсцы болей хвіліны. Ня вытрымліваў. Думаю, гэта ў маёй паваэе. Ледзь дзе небудзь асяду, зараз-жа абрыдзяе мне. Уцёк з хаты яшчэ хлопцам і з таго часу туляюся з мейсца на мейсца».

«Чаму-ж тагды вы вярнуліся?»

«Я—не вярнуўся — адно іду міма. Думаеце, што я тут дома?

---

*) ...па ческі — панна, паненка.

Дома я — усюды і нідзе. Каб вы прайшлі гэтулькі сьвету і пражылі толькі, як я — пазналі-б, што чым болей пяройдзеш сьветам, тым меней чуешся на ім дома. І нарэшце бываем вельмі стомленымі».

Твар чужынца, нібы састарыўся. Хвараблівасьць у падобе тоненькіх змаршчынак ухапіла яго абліччa, як у павучыну. Марыя засмуцілася і пагладзіла яму руку.

«Што-ж, ня маеце нікога — бацькоў, жонкі, мілае?»

«Бацькі мае даўно ўжо памёрлі», адказаў чужынец борзда нібы якраз гэтага чакаў, «а тое апошняе — ведаеце — нельга называць усё тым імям. Калі быў мараком, мелі мы ў каждай прыстані сваіх дзяўчат, якіх мы даведываліся. Але калі мы былі на моры — а гэта было бадай праз цэлы час — то ведалі мы, што маючы ўсюды дзяўчат, ня маем нідзе мілай. Тых некалькі гадзін, што мы былі ў іх — адыйшлі з намі — і хапайцеся, калі канец ужо перарэзаны! І на вошта думаць аб іх, калі яны ня думалі аб нас? А мілая — гэта нешта, аб чым можна думаць і нешта аб чым думаецца, што тое на нас думае. І гэта самае галоўнае, калі мы самотныя і далёка. Але тыя нас запаміналі, ледзь зачыняліся дзьверы. Не ўрасталі мы там і нельга было жадаць. І вы заўтра запамятаеце.»

«А чаму запамятала-б? Не запамятаю!»

Чужынец пакруціў галавой і ухмыльнуўся.

«Не запамятаю», цьвердзіла Мажка, «буду думаць аб вас, калі гэта будзе рабіць вам прыемнасьць».

«Чалавеку вельмі дзіўна, калі ніхто аб ім ня думае, нібы ступае ў парожнасьць. Нібы няма цела — рук, ног, асабліва-ж вечарам, калі зойдзе сонца. У які бок маеш абярнуцца? У які ісьці? Карабель плыве і усё-ж такі стаіць. Ты адзін, адзін. Самотнаму чалавеку не даволі сябе, каб жыць. Ён-нябожчык, нябожчык».

Было штосьці так пераконываючае ў тых словах, што Марыя палажыла яму руку на галаву, пагладзіла яе мазолістымі далонямі і ад цэлага сэрца, хочучы забараніць гэтага чалавека, зашаптала.

«Прысягаю вам, пане, што буду заўсёды вас страшна згадваць.»

Музыка грала крыклівы вальс, саля дыміла, як комін, а чужынец зьбіраючыся ўваскроснуць казаў да вачэй найвярнейшай служкі:

«Кахаю вас, слечно!»

Потым выпілі з аднае шклянкі, казалі сотні бессансоўнасьцяў, якія дасканальна разумелі. Чужынец меў рукі лядовыя, але голас гарачы, Марыя уся была гарачая, але хвілямі яе працінала сьцюжа. Час уцякаў — усталі, заплацілі і выйшлі да начы, прыціснуўшыся да сябе бок во бак.

За рогам пацалаваліся, пасярэдзіне на вуліцы пацалаваліся. Газавыя ліхтарні зьнікалі ў імгле, а Мажка зьнікала ў мягкіх пацалунках. Так дайшлі аж да хаты і спыніліся ля дзьвярэй.

Мажка адамкнула, вайшла, чужынец уступіў за ёю і абое, трымаючыся за рукі, на пальчыках ступалі пацёмкамі сходаў.

Мажка мела сваю каморку ля кухні. Пасьцель, куфар, разьбітае люстэрка з паштовымі пісулькамі і старая вешалка былі усе яе прыкрасы. Аднэй буў-бы цесны, дваім вальнейшы. Таму сюды прыйходзіў Войта, перад ім Лойзак, а найперш Карлічак Хыла, адважны электраманцёр. Па кожным заставалася тут некалькі хараства, усе трое прайходзілі цеплымі абоймамі Мажкі — нават у буднія дні, калі засыпала адна. І калі сьмелі тыя трох, чаму-б ня сьмеў заблудзіўшыйся чужынец, якому адзінакава йшлі на спатканьне вусны і грудзі. Ці толькі таму, што ня меў імя? Затое меў смутак, які разбройвае. Што ня ведае яго і што з першага вечара? У першым мамэнце пазнаецца болей, чым у першым тыдні, і мусіў-бы ехаць бяз клуначка, бо ад'езжае ўжо заўтра. Гэтак прыблізна думала сабе Мажка, зачыняючы шчыльна дзьверы, і нарэшце найболей: што так мусіць быць.

У пакойчыку было цесна. Калі-ж апынілася ў руках чужынца ля вакна, зьявілася зорка. Пазірала Мажка на зорку і слухала палкі голас чужынца. Цэлая слухала яго, але найбольш сваімі прудкімі грудзямі, якія даваліся мясіць, нібы хацелі прыняць у сябе ўвесь смутак і хараство песьцячых рук.

Калі-б зірнула яму ў твар, пабачыла-б, што ён бледы — бледшы чым зорка ў вакне.

Але яна паглядала на зорку і поўная каханьня і раскошы засьвяцілася ў сэрцы сваім да гэткіх намераў.

«Ніхто на цябе ня згадваў, чалавеча, вер, што буду памятаць цябе.

У кухні, на сходах, пры мыцьці пасуды, на рынку, а найболей вечарам, раней чым засну.

Каб ты — калі і ад'едзеш, ня быў чужы зямлі па якой пойдзеш. Каб ня быў самотны аж да сьмерці.

Заўсёды, заўсёды нават калі што небудзь здарыцца, буду верна думаць аб табе і бог мне ў тым дапаможа».

Зорка за вакном разраслася ў вялікі квет, а Марыя упала плашмя на ложак.

Калі-ж чужынец уступаў да яе цела, сказала яшчэ не для сэнсу тых слоў, але па звычайнасьці, бо заўсёды так казала тым, што прыйходзілі яе кахаць:

«Адно ўважай!»

Потым зачыніла вочы, абхапіла яго рукамі вокала шыі і прыняла яго да себя вярней чым труна — з усімі грахамі, болямі і надзеямі і з тымі за якія ўміраецца. Ляжалі ў сабе, як два дары нятутэйшых палеў сьвету — злучаныя на век тым, што ўзаемна аддаліся сабе.

«Не запамтаеш?»

«Не запамятаю.»

І тут цела чужынца напружанае палавымі курчамі, раптам бессансоўна пераламалася. Марыя пачувала, што не дайшоў яшчэ да яе сэрца, ахопленая страхам прыціснула яго да сябе з

усяе моцы. Тут цела пералілося праз яе, не як хваля, а незгінаючы — зьмярцвела. Марыя пачула разьдзёрты ўздох, але ня быў гэта ўздох каханьня — прыйходзіў з іншага боку. Быў гэта ўздох спакойны, і усё-ж вельмі кароткі, які дазьвіньваючы адгукнуўся ва ўсіх рэчах у пакоі. Праняло яе холадам, нібы пачула ў сабе лёд. Схапіла за валасы галаву, нярухома ляжачую на яе грудзёх, падняла яе натужана, аж да сьвету зоркі, якая стаяла за вакном ад адвечнасьці да адвечнасьці. І ў гэтым імглістым сьвятле пабачыла вытарашчаныя вочы і зьвездзеную грымасу трупа.

Быў забіты паралюшам.

Поўная жаху пусьціла галаву. Упала ёй між грудзей, як камень у глыбіню. Усё цела яе расхвалявалася да тысячы зблутаных кругоў. Хацела закрычаць — не магла, хацела выскачыць — ня выскачыла. Ляжала хвілю скамянеўшай пад мёртвым целам, якое дагэтуль уклінвалася ў яе цела. Напружыла усе свае сілы, каб скінуць яго, але мёртвае цела моцна трымала яе нагамі і нібы да яе ўпадала. Змагалася з ім прудка, бо вялікі боль і жах яе змацнілі — але цяжка было змагацца. І калі нарэшце вызвалілася ў той меры, што скінула яго з сябе і палажыла ля сябе папярок ложка, пазнала ўбогая, што ня зьняла яго і ніколі яго ня здыме. Паднялася. Босымі нагамі двойчы прайшлася па пакоі. Выбегчы, лямантаваць, зьвівацца на зямлі — загадваў жах у каморцы. Застацца, быць ціхай, найцішэйшай — казаў жах за вакном.

Узяла прасьцерадла і прыкрыла нябошчыка. Руку перакінутую цераз ложка палажыла яму ля боку. Потым прысела да яго служка найвярнейшая.

Зорка за вакном бледне, уступаючы мейсца шэрым контурам комінаў. Марыя нярухома глядзіць перад сабою, як птах, якога застрэлілі за сьпевы. Адходзіць кудысьць на далёкі шлях. Да чужога сьвету — чужаніцай. Сама сабе кажа: «З богам, Марыя!» Пакіне дом сваіх двадцацігадовых грудзей, радзімую мову радаснага ўзлоньня, адходзіць ад усяго свайго цела, якое так дужа зацьвітала перад дзьвюма гадзінамі.

Ня ведае і ні кажа гэтага нікому; яна гэта пачувае. Раптам ей робіцца холадна, холадна, халадней, чым нярухомаму целу пад пасьцілкаю. Нібы яе кроў кудысьці ад яе ўцякае. Сьцюжа, сьцюжа...

Ахутваецца ваўняным шалям. Робіцца на гэтулькі падобнай мёртваму, што гэта сабе ўсьведамляе. Але ня крычыць, ня ўстае, ня плача, хоць на вуліцах ужо грукочуць першыя падводы, а дворнікі адчыняюць брамы.

Каму ад гэтай гадзіны адчыніць абоймы, каб не згадала аб сьмерці? Як знойдзе моцы аддацца іншаму каханьню, ня дрыжаць ад жаху, што яе мілы можа памерці між ног і грудзей?

Сёньня не адзін памёр у яе абоймах — памёрлі з ім усе тыя, што яшчэ ня прыйшлі. Каханьне, перамянілася ў ёй на смерць, а чым іншым, як ні каханьнем можа жыць жанчына?

Гадзіньнік б’е. Звоніць малочніца. Марыя не адчыняе. Няма ў яе нічога, акрамя памёршага чужынца, нябывого каханка

і яе вернасьці на векі. Прыпадае да бесканцовых балючых гадзін, у якія яна будзе аб ім думаць. І так сталася — чужынец, што быў пахаваны жывым, па сьмерці ў ёй ўваскрос.

Дапяла таго, што абяцала. Сэрца служкі Марыі, якім вечна будзе праходзіць, як меч похваю, будзе служыць яго жыцьцю. Верна, найвярней.

Дзьверы са сходаў адчыняюцца. Хтосьці грукае, хтосьці звоніць, хтосьці злосна крычыць:

«Чаму ня йдзеце адчыняць, Мажка, калі малочніца ўжо поўгадзіны звоніць?»

Марыя ня разумее, што ад яе хочуць, бачыць толькі, як праз імглу, твар пані. Потым мае ўражаньне, што на яе наступае кола паветравых масак, чуе шум, крыкі сотні вуснаў і вочы зьвернутыя да яе. Сьціснутя з усіх бакоў ня можа дыхаць, падымае рукі і нібы гэтым хоча забраніцца і адвярнуць увагу ўсіх ад сябе, паказывае ім на пасьцель, дзе пад пасьцілкаю страшна рысуецца зьцвярдзелае чалавечае цела і крычыць:

«Там — там — нябошчык!»

Толькі потым кідаецца на зямлю, зьвіваецца і нялічанымі сьлязамі разьліваецца па бруднай падлозе.

І жадны з прысутных, што зьбіліся ў дзіўнай блытаніне наўкола пасьцелі, поўныя жаху, злосьці ці жалю, не разумеюць, што ня мёртвы а мёртвая засталася ў гэтай будове.

Пераклаў з чэскага *Л. Макашэвіч.*

---

# Рознае.

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.

**Шэкспір на беларускай мове.** Сябра «Маладняка» М. Дуброўскі пераклаў з ангельскай мовы камэдыю Шэкспіра «Жартаўніцы Віндзору»

**Профтэхнічная асьвета на Беларусі.** У Сав. Беларусі істнуе зараз 24 профтэхнічных школаў, у якіх вучацца 2500 вучняў. Шмат з іх у гэтым школьным годзе закончываюць сваё навучаньне.

У мястэчку Старае Сяло адчынілася ў гэтым годзе першая на Беларусі ткацкая профшкола.

**«Маладняк» у Гомельшчыне.** У хуткім часе выйдзе з друку першы зборнік твораў сяброў Гомельскай філіі, складзены выключна з іх твораў.

**Задавальняньне беларускай школы падручнікамі.** У сучасны момант школа амаль ужо задавольнена падручнікамі. У адным толькі месяцы студні 1926 г. Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам накіравана на акругі звыш 100.000 падручнікаў.

**Спорт на Беларусі.** Сярод беларускіх працоўных гушчаў надзвычайна пашыраецца спорт. Гэта відаць хоць бы з таго, што ў Сав. Беларусі налічваецца к 1926 г. 110.000 спартоўцаў. У вёсках знайходзіцца 160 спартоўных гурткоў у якія ўцягнута сялянская моладзь.

**Разьвіцьцё сельска-гаспадарчае каапэрацыі на Беларусі.** Беларуская сельска-гаспадарчая каапэрацыя набывае што год большага размаху. Так, за мінулы 1925 г. гадавы зварот сельска-гасп. каапэрацыі выразіўся ў суме 18 мільёнаў зал. рублёў, проці 10 міль. у 1924 г.

**Пашырэньне Краязнаўства.** Акруговае Краязнаўчае Таварыства пастанавіла прасіць Акруговы Выканаўчы Камітэт аб перадачы яму былога Сафійскага сабору ў Полацку дзеля арганізацыі ў ім Музэю Краязнаўства.

**Новы будынак для Б.Д.У.** Будаўнічая Камісія пры Нар. Кам. Асьветы па распрацоўцы праэкту новага будынку Б.Д.У. ухваліла даць заказ на пра-

вядзеньне конкурснага прэкту Маскоўскаму Архітэктурнаму Таварыству. Камісія вызначыла 6 конкурсных прэміяў: у 1500 руб, 1200 р., 1000 р., 800 р. і дзьве па 600 руб.

**Выданьне твораў беларускіх пісьменьнікаў.** Літэратурная Камісія Інбелкульту заканчывае складаньне першага тому збору твораў беларускага паэты Максіма Багдановіча. У хуткім часе гэты збор вершаў будзе друкавацца. Камісія так сама вядзе падрыхтоўчую працу да выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў Алеся Гаруна і Цёткі (Пашкевічанкі).

**Опэра на беларускай мове.** Пад наглядам В. Сэляха і А. Бясьсмертнага ідзе падрыхтоўка сілаў Беларускага Дзярж. Музычнага Тэхнікуму да пастаноўкі ў маі м-цы г.г. опэры на беларускай мове.

**Правядзеньне беларусізацыі ў Случчыне.** За апошні час беларусізацыя ў Случчыне значна пашырылася. Цэлы шэраг устаноў, як Акруговы Выканаўчы Камітэт, аддзел Народнае Асьветы, Земаддзел і міліцыя вядуць сваю працу на беларускай мове. Партыйныя установы так сама цалком перайшлі на беларускую мову. Часткай на беларускай мове толькі працуюць: Аддзел Грашовых Спраў, Аддзел Сацыяльнае Забясьпекі. Профсаюзы працаўнікоў асьветы і працаўнікоў зямлі і лесу працуюць на беларускай мове; рэшта профсаюзаў працуюць часткай на жыдоўскай і расейскай мовах. Чатырохгадовыя і сямёхгадовыя школы ў цэлай акрузе, за малым выключэньнем, працуюць на беларускай мове.

**Пераклад Я. Купалы на чэскую мову.** У апошнім сакавіковым нумары «Slovanského Přehledu» зьмешчаны пераклад вершаў Янкі Купалы на чэскую мову. Перакладчыкам зьяўляецца Рубін. Там-жа пададзены кароткія весткі з жыцьця нашаго песьняра і яго партрэт.

**Пераезд беларускай дзяржаўнай студыі ў Б.С.С.Р.**. Савнарком асыгнаваў 50.000 руб. беларускай дзяржаўнай студыі на пераезд з Масквы ў Б.С.С.Р. і на арганізацыю першых пастановак.

**Т-ва культурнай сувязі Сав. Беларусі з заграніцай.** 7 красавіка г.г. залажылася ў Менску «Т-ва культурнай сувязі Сав. Беларусі з заграніцай». Сваёй мэтай т-ва ставіць навязаньне чыннай сувязі з культурнымі і навуковымі ўстановамі заграніцай.

**Смаленскае Т-ва краязнаўства.** У Смаленску заснавалася краязнаўчае т-ва. Наладжана ім навуковая сувязь з Інбелкультам. Прыступлена да вывучэньня народнае гаспадаркі Смаленшчыны.

**Архіўнае будаўніцтва.** Усе старыя беларускія архівы, знайходзячыяся на тэрыторыі Р.С.Ф.С.Р., як на пр. Літоўская мэтрыка, перавозяцца ў Менск, на што Урадам асыгнаваны адпаведны сродкі.

## ЛАТВІЯ.

**Беларуская школа ў Латвіі.** Палітыка латвійскага ўраду што раз становіцца усё больш варожай да беларускай нацменьшасьці. Асабліва адбіваецца гэта на школьнай справе. Скарочваюцца крэдыты, не дапушчаюцца на пасады ў школьныя ўстановы тыя людзі, якіх высоўвае беларускае грамадзянства, зачыняюцца школы. За апошні год школьная сетка скарацілася ў параўнаньні з 1924 г. амаль што на 50%. Добры прыклад, як буржуазная дэмакратыя вырашае нацыянальнае пытаньне.

**Эміграцыя ў Бразылію.** Становішча беларускага сялянства ў Латвіі робіцца што раз горшым у зьвязку з зямельным голадам, непамернымі падаткамі, адсутнасьцю заработку. Гэты цяжкі стан вёскі выкарыстоўваюць розныя агэнты, вярбуючы сялян у Бразылію, дзе яны фактычна будуць прымушаны стаць белымі рабамі бразыльскіх плянтатараў. Шмат сялян ужо выехала. Усё гэта робіцца ў той час, калі пад бокам ёсьць яшчэ шмат зямлі, знайходзячайся ў руках абшарнікаў і кулакоў.

**«Голас Беларуса».** Ужо другі год выдаецца ў Латвіі Езавітавым часопісь «Голас Беларуса». Адзіным добра пастаўленым аддзелам зьяўляецца інфармацыя аб Савецкай Беларусі. Рэшта пастаўлена надта слаба У рэзультаце часопісь робіць сумнае ўражаньне. Калі яе чытаеш, здаецца, што усё ў Латві добра, толькі вось хіба ў адносінах да беларускай школы латвійская буржуазія трохі брыкаецца. Часопісь хоць і прэтэндуе на орган беларускай нацменьшасьці, аднак ня удзеляе ўвагі запраўдным патрэбам гэтае меньшась-

ці. Яна прайходзіць міма цяжкога становішча сялянства, батракоў, бяссумленна эксплёатуемых «серымі баронамі» Курляндыі, не зьвяртае ўвагі на выкідываньне рабочых з дзяржаўных прадпрыемстваў, толькі за тое, што яны беларусы, зусім маўчыць аб цяжкім становішчы беларускае інтэлігэнцыі, пазбаўленай магчымасьці атрымаць працу. Ляпей было-б прысьвячаць больш увагі палючым патрэбам беларускае нацменьшасьці.

## ЭМІГРАЦЫЯ.

**Беларуская эміграцыя ў Празе.** Галоўнай масай беларускай эміграцыі ў Празе, выключаючы безумоўна бэ-эн-эраўскіх міністраў, зьяўляецца вучачаяся моладзь, прыехаўшая сюды з Польшчы, каб здабыць вышэйшую адукацыю. Гэтая моладзь, ня гледзячы на сваё пераважна сялянскае паходжаньне, спачатку адносілася варожа да Савецкае Беларусі, дзякуючы выхаваньню, атрыманаму ў школе ў дусе вузкага шавінізму. Узмацненью гэтых настрояў шмат спрыяла тая антысавецкая расейска-украінская эмігранцкая атмасфэра, у якую прыйшлося тут акунуцца. Аднак час зрабіў сваё. Нікчэмнасць беларускіх нацыяналістычных правадыроў і іх скурніцкаспэкулятыўны характар, ўсе ўзмацняючыйся ўціск у Польшчы, культурнаэканамічны ўзрост Савецкай Беларусі — вось тыя факты, якія прымусілі яе прызадумацца і пераглядзець той ідэалёгічны «скарб», якім надарыла яго школа. Урэшце найбольш перадавая частка стала на савецкую плятформу і стварыўшы ўласныя арганізацыі, вядзе культурную працу. Другая, меньш актыўная частка студэнцтва, зьняверыўшыся ў сваіх ранейшых незалежніцкіх ідэалах і правадырах, парвала з імі, не адважыўшыся зрабіць далейшага кроку, перастала цікавіцца грамадзкім жыцьцём і кінулася выключна ў акадэмізм. Толькі меньшасьць засталася вернай сваім антысавецкім традыцыям, але і яна ня ўнікла пэўнай дыфэрэнцыяцыі і зараз зьяўляецца разьбітай на цэлы шэраг маленькіх групак, ня зусім лёяльна адносячыхся адна да другое. Групкі гэтыя наступныя: эс-эраўская ў 5 чалавек з Грыбам на чале, зьяўляючаяся адначасна і Ц.К. і закард. дэлегацыяй і здаецца ўсей партыяй; Сялянскі Саюз Станкеўчыка ў чалавек 8; група манархістаў — чалавек 5, ды т. з. Беларуская Рада ў Празе Крэчэўскага, дзе наш «100% незалежнік» мірна супрацоўнічае разам з манархістамі. Усе гэтыя групкі жаднай працы не вядуць, ня гледзячы на падтрыманьне якое яны дастаюць, апрача хіба правадыроў накшталт Крэчэўскага і Грыба, якія крыўляюцца на эмігранцкіх падмостках у часе розных антысавецкіх выступаў.

Цікава адзначыць спробу іх стварыць адзіны антысавецкі фронт на эміграцыі. З гэтай мэтай нават зарганізавалі агульнае крыўскае т-ва дзе нашы эс-эры паказалі сваю сацыялістычную пасьлядоўнасьць падаўшы брацкую руку манархістам і клерыкалам накшталт Станкеўчыка. Але дзякуючы «вялікай сымпатыі» з боку студэнцтва гэтая арганізацыя пасьля 2-3 зборак ціха супакоілася на лоне Аўраамовым.

**Жыцьцё бел. паступовага студэнцтва ў Празе** канцэнтруецца каля 2 арганізацыяў: Саюзу студ. грам. Б.С.С.Р. і культурна-асьветнага т-ва «Грамада». Саюз ст.-гр. Б.С.С.Р. залажыўся якраз год таму назад. Зараз налічывае ў сябе 18 сяброў якія па сканчэньні вышэйшай школы ў Чэхіі думаюць ехаць у С.С.С.Р., каб там служыць на карысьць працоўнага народу. Саюз працуе ў самым цесным кантакце з іншымі саюзамі савецкага студэнцтва ў Чэхіі: уладжывае з імі супольныя рэфэраты канцэрты, сьвяткаваньні і г. д. З бегам часу, савецкая думка, дзякуючы культурнай працы саюзу, пачынае усё больш пашырацца сярод беларускага студэнцтва ў Чэхіі, якое цяпер пабачыла, што яго мейсца — разам з працоўнымі, а не з эмігранцкімі недабіткамі, страціўшымі галаву.

У старэйшай — культ.-асьветн. т-ве «Грамада» (30 сяброў) сконцэнтравана ўся асьветная праца. Праца гэта ідзе двумя шляхамі: шляхам чытаньня рэфэратаў на сацыяльныя, эканамічныя і іншыя тэмы й шляхам правядзеньня курсаў. За гэты школьны год была прачытана 15 рэфэратаў на розныя тэмы: Творчасьць Я. Купалы; Заданьні беларускай моладзі; Расклад антысавецкай эміграцыі і бэрлін. нарада; Сялянскае пытаньне ў Зах. Беларусі; Сялянск. Саюз і яго роля; Сучаснае міжнароднае становішча (2); Жаночае пытаньне ў сьвятле марксызму; Паходжаньне дзяржавы; Буржуазная дэмакратыя і

дыктатура пралетарыяту; Фашызм; Шляхі рабочага руху; Рух рабочае моладзі і яго шляхі; Асновы ленінізму (4); Што такое трацкізм. Апрача гэтага было прачытана 7 лекцыяў з палітычнае эканоміі і вядзецца ў гурткох тры сэмінары, два па паліт. эканоміі і адзін па гістарычнаму матэрыялізму.

**«Маладняк» у Празе.** У пачатку сьнежня 1925 г. залажылася ў Празе пры Саюзе ст. гр. Б.С.С.Р. аб'еднаньне пісьменьнікаў і паэтаў «Маладняк». Мэтай «Маладняка» зьяўляецца абзнаямленьне чэскага грамадзянства з дасягненьнямі беларускай работніцка-сялянскай культуры і наадварот. Перш за ўсе была уладжана ім 22. XII. 25 г. урачыстая акадэмія-канцэрт на аславу 20 угодкаў літэратурна-мастацкай дзейнасьці бел. паэта Янкі Купалы. Акадэмія-канцэрт прайшла з надзвычайным посьпехам, і зацікавіла студэнцтва ня толькі беларускае, але і іншых народаў, а так сама і чэскае грамадзянства. Маладняком» рыхтуецца рад перакладаў чэскіх пралетарскіх пісьменьнікаў.

**Клюб-чытальня беларускага паступовага студэнцтва ў Празе.** З 9. X. 1925 адчыніўся Клюб-чытальня бел. паступовага ст-ва ў Празе — адзінае мейсца, дзе можна знайсьці ўсю беларускую прэсу. Апрача ўсіх пэрыёдычных беларускіх выданьняў Латвіі, Усходняй Беларусі, клюбам атрымліваюцца «Правда», «Известия», «Экономическая Жизнь», «Młot» і інш. Пры Клюбе знайходзіцца невялічкая, але добра падабраная бібліатэка. Бібліатэкаю і чытальняю карыстаецца амаль усё студэнцтва, якое цікавіцца беларускім жыцьцём і будаўніцтвам новага жыцьця на Усходзе.

**Прывітаньне Работніцка-Сялянскай Грамадзе.** 10 красавіка 1926 г. адбыўся сход беларускага паступовага студэнцтва, на якім было пастаноўлена паслаць наступнае прывітаньне Работніцка-Сялянскай Грамадзе: «Беларускае паступовае студэнцтва, знайходзячаеся на эміграцыі, ўважна сачыць за тэй цяжкай барацьбой, якую прыйходзіцца весьці Раб. Сял. Грамадзе за правы беларускага працоўнага народу. У той час, калі ўсе групкі з быўшага беларускага пасольскага клюбу ў працэсе свае ў сойме альбо аканчальна прадаліся буржуазіі, альбо аб'ектыўна зрабіліся яе вернымі лёкаямі, прыкрываючыся маскай лёяльнай апазыцыі, каб лягчэй ашукаць беларускія працоўныя масы, Раб.-Сял. Грамада, стаўшы на грунт самага цеснага саюзу работніцкае клясы з сялянствам, запраўды змагаецца за сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы беларускага працоўнага народу. Беларускае паступовае студэнцтва шчыра вітае Раб.-Сл. Грамаду і жадае ёй посьпеху ў барацьбе з польскімі капіталістамі і абшарнікамі і іх беларускімі прыхвасьнямі.

**«Новае заваяваньне беларускай культуры» або, што такое самарэкляма?** Амэрыка ведама, як краіна рэклямы. Рэкляма там усё. Адраджаючаяся Беларусь (асабліва на эміграцыі!) ніяк і ня ў чым ня хоча адставаць ад вялікае заакеанскае дзяржавы. Першыя крокі — толькі сьляпое насьледаваньне. Вось хоць-бы сэнатар Уласаў: нават веру амэрыканскую ўводзіць і кажуць, аж гудзе! Ці яшчэ: была ў Празе эміграцкая выстаўка кніг. І нашы выставіліся: «Крывіч», некалькі бюлетэняў эс-эраў ды Рады Б.Н.Р., маршалак (Крэчэўскі) з жонкай, «перакусіўшы скарынку чорствага эміграцкага хлеба (глядзі Бюлетэнь Рады БНР, № 1), Захарка з жонкай, паўнамоцны прадстаўнік, ён жа «прафэсар», Вяршынін і амаль што ні воднай беларускай кнігі. А пачытайце, што аб гэтай «тоже» выстаўцы піша «Сялянская Ніва»? (№ 12). Якая рэклама і сэнсацыя! Альбо возьмем напрыклад апошні нумар «Крывіча». Гляньце, як рэклямуе сябе Ластоўскі. Дагэтуль усе ведалі яго, як ахмістрыню на плебані літоўскіх ксяндзоў у Коўні. А тут раптам даведываемся, што ён — сама цнота, 100% «незалежнік», «праца якога відаць у кожнай галіне нашага адраджэньня». І якая наўдзячнасьць! За цьвёрдае станьне пры сьцягу незалежнасьці Крывіі — «атрымлівае» (апрача літаў) «скорпіёны і церні»! Чым ні самарэкляма.

Але № 12 «Кгупісу» — «пабіў рэкорд». Тут ужо запраўдны беларускі амэрыканізм. Вось самі прачытайце — «беларусазнаўства ў пэдагагічным інстытуце ў Празе». Гаворыцца там аб студэнту Янку Станкевічыку, што ён «вучоны, філёлаг», які пачаў тварыць цуды ў Украінскім Пэдагагічным Інстытуце, прытулку гэтманскіх недабіткаў. Чаго варты адзін пачатак «навуковай» чыннасьці! У ўступнай лекцыі ён «зьбіў» (але так і сказана зьбіў) «дагэтулюшнія тэорыі-гіпотэзы маскоўскіх філёлагаў (галоўнае Шахматава)». І ўсё гэта бязумоўна «навукова». Вось як у нас! Бедная навука! Бедны

акадэмік Шахматаў! Сорак гадоў працы сьвятовае імя, сьветач славянскае навукі і раптам аднэй пстрычкай недавучанага студэнта «філёлага» — усё ляціць кішэнькамі дагары. Але вага карэспандэнцыі «Кгупісу» ня ў гэтым. Галоўнае беларускі амэрыканізм! Карэспандэнцыя, як формай (інтэрв'ю) і асаблівa «собскімі» слоўцамі дае падставу думаць, што аўтар быу ні хто іншы, як сам «філёлаг». А можа толькі пад дыктоўку пісана? Чым не Амэрыка! Ды і там самарэклямa зьявішча рэдкае. Што-ж, ці ня праўда, весела?

**«Замежная Беларусь».** Беларускі Петрушка Крэчэўскі, які цешыў дагэтуль публіку сваімі нотамі усім-усім аб зьдзеках над ім бальшавікоў, не жадаючых прызнаць яго сувэрэнных правоў на Беларусь, рашыў сябе ўвекавечыць, надрукаваўшы іх «каб захаваць для будучых пакаленьняў» . У траўні месяцы ён выпускае «Замежную Беларусь». Пакуль што новы «наступнік Скарыны» інтэнсыўна рэклямуе добрую паперу. Першую абвестку аб сваёй часопісі «100% незалежнік», як і трэба было чакаць, зьмясьціў у «тожe» незалежным «Беларускім Слове». Цікава, ці не зьяўляецца гэта першым крокам п. «маршалка» да збліжэньня з пэўнымі коламі польскага грамадзянства?

**«Нашы у Чэхаславакіі».** «Сялянская Ніва» — часопісь маладая і калі ня можа пахваліцца разумнымі перадавіцамі, то можа рызыкаваць добра пастаўленай карэспандэнцыяй, бо мае нават зменжных карэспандэнтаў. Найбольш вітаным з іх, як відаць, зьяўляецца праскі, якому заўсёды адводзіцца шмат мейсца, і хоць падпісываецца п. карэспандэнт «Храносам», аднак цяжка верыць, што падзеі сярод беларускай эміграцыі ў Празе, аб якіх ён піша, у запраўды так адбываліся. Магчыма, што для «Сялянскага Саюзу» патрэбны такія карэспандэнцыі, каб падагрэць імпэт яго пасьлядоўнікаў думкаю аб «моцных» рэзэрвах у Празе, але для чытачоў, знаёмых з праскай запраўднасьцю, такія карэспандэнцыі, як кажуць чэхі, «pro kočku». Відаць пан карэспандэнт трымаецца засады, што калі цябе ніхто ня хваліць, так трэба хоць саму сябе пахваліць, бо рэляцыі яго больш падобны на гымны-хваласьпевы чалавека згубіўшага пачуцьцё меры.

Каб п. Хронос ня мог сказаць, што я да яго стаўлюся ўжо аж надта няпрыхільна, прывяду некалькі фактаў з яго карэспандэнцыі да «Сялянскае Нівы» № 6 ад 14. II. 1926 г.

Вось вам сьвяткаваньне 31. XII. 1926 г. у Празе Скарынінскага юбілею. Прысутных можна рахаваць па пальцах. Прамоўца — П. Крэчэўскі, «ведамы рэфэрэнт» на эмігранцкіх «урачыстасьцях», які ніяк ня можа абыйсьціся без таго, каб гаворачы нават аб Дунін-Марцінкевічу ці Скарыне, ня брыкнуць Савецкую Беларусь і заўсёды міла абыйходзячы маўчаньнем долю Заходняй Беларусі. Праўда, Хронос паставіўся да рэфэрэнта з некаторым засьцярэжаньнем, бо піша аб яго рэфэрату ўсяго толькі, што ён быў прачытаны «даволі жыва і прыгожа», хоць адкуль можа зьявіцца жывасьць у чалавека, нават самага аптымістычнага, калі ён бачыць перад сабою пустую салю! А што тычыцца ўжо прывітаньняў, дык тут пан Хронос саўсім «перабаршчыў». Амаль ня кожнага прысутнага на сьвяткаваньні ён зрабіў прадстаўніком якое-небудзь «арганізацыі».

Што-ж тычыцца «Беларускага Скарынінскага Таварыства» ў Празе, то тут фантазыя п. Хроноса гуляе ў-ва ўсю! Відаць, гэтую карэспандэнцыю ён пісаў, п'ючы піва і трохі быў «пад Бахусам». Бываюць усялякія здарэньні. З карэспандэнцыі толькі мы даведаліся, што ў існуючым на паперы Скарынінскім Т-ве чытаюцца цэлыя «цыклі» рэфэратаў з гісторыі, літэратуры і іншых галін веды, як то беларусазнаўства, так і агулам». Калі гэта? Праскаму студэнцтву ведама ня болей двух-трох. Вось першы — «рэфэрат» п. Грыба, сябры прэзыдыума Скарынінскага Т-ва. На гэты «рэфэрат» прыйшоў акуратна, трэба адзначыць, п. Грыб і двое сяброў, але толькі не з Скарынінскага Т-ва, якое, на жаль, рэпрэзэнтаваў сам п. рэфэрэнт. Рэфэрат, звычайна, не адбыўся. Пасьля Грыба прабаваў шчасьця Янка Станкевічык. Але і на гэты рэфэрат зьявілася столькі-ж слухачоў і ён таксама ня быў адчытаны. Вось вам і ўсе «цыклі»!

Што-ж тычыцца колькасьці сяброў Т-ва, дык карэспандэнт тут проста памыліўся і ня падзяліў паданую ў газэце лічбу — 48 — на дзесяць. Выйшла-б прыблізна верна, хоць людзей ў драбях і не рахуюць! *Анты-Хронос.*



# Ліст да редакцыі.

Просім паважанаю рэдакцыю надрукаваць ніжэйпададзенае: У свой час, калі на праскім грунце зьявіўся прэславуты «Бюлетэнь Рады Б.Н.Р. (№ 1—1926), мы, ніжэйпадпісаныя, адказалі сваім лістом ад 14 лютага 1926 г. і паслалі яго некаторым рэдакцыям беларускіх часопісаў, як у краі, так і за межамі. Аднак, дзеля тэхнічных варункаў, ён дагэтуль ня быў надрукаваны. Таму мы змушаны нанова зьвярнуцца да памяненага бюлетэня, але пастараемся адказаць толькі на тыя закіды бюлетэня, на якія дагэтуль ніхто ні ў «Савецкай Беларусі», ні ў «Голасе Беларуса» не адказаў.

Мусім адзначыць, што да ведамай Нарады ў Бэрліне, мы ня толькі з. п. В. Захаркай, але і з п. П. Крэчускім былі амаль саўсім аднадумны ў назытыўнай працы Радавай Беларусі. Само сабой разумецца, што і гэта нарада падгатаўлялася пры актуным іх удзеле, аб чым сьведчаць усе захаваўшыяся лісты і тэлеграмы, які прысылаліся А. Цьвікевічам амаль выключна на імя П. Крэчэўскага. Дзеля гэтага асабліва ня сур'ёзна выглядае тая частка бюлетэня, дзе Крэчэўскі ўсімі спосабамі намагаецца адгарадзіцца, у вачох «дружественной» эміграцыі, ад нас, кажучы, што мы былі «у умове з Цьвікевічам», а ён, бедны «старшыя» нічога ня ведаў.

П. Крэчэўскі, як і мы, ведаў абсалютна аб усіх плянах А. Цьвікевіча датычна беларускай палітыкі наагул і скліканьня нарады ў часнасьці.

Толькі дзякуючы нашай усіх аднадумнасьці і была ў агульных рысах накідана ў Празе ўрадовая інструкцыя і абгаварывалася магчымасьць ліквідацыі ураду Б.Н.Р., аб чым і кажуць тыя інструкцыі, якія знарок у бюлетэні былі не надрукаваны.

Ня ведаючы, колькі з'едзецца дэлегатаў на Нараду, але добра ведаючы агульныя настроі процiў Ураду Б.Н.Р., Крэчэўскі прыдумаў формулу: каб урад Б.Н.Р. канфэрэнцыя ня зьліквідавала процi волі сяброў ураду, апошнія павінны падаць яму заяву аб умоўнай адстаўцы, пры чым толькі пасьля канфэрэнцыі будзе відаць, як з гэтай заявай паступаць. Апрацаваў формулу заявы Крэчэўскі, а мы разам з В. Захарко тады настолькі ня прыдавалі гэтай дамашняй «адстаўцы» вагі, што не абгаварываючы досыць няўдалую фармуліроўку паперы, — яе падпісалі ў трох. Ніхто з нас ня мог прадбачыць вераломства з боку свайго блізкага таварыша, і мы паехалі да Бэрліну, лічучы сябе праўнымі дэлегатамі ўраду Б.Н.Р.

Ня бачачы ніякай небясьпекі для сябе на нарадзе, сябры ураду ўключылі дабравольна ў павестку нарады пытаньне аб урадзе Б.Н.Р. І мовы быць ня можа, аб якіх-ба та ні было «сэпаратных сходаў ураду без чацьвёртага яго сябра» у часе канфэрэнцыі, як кажа бюлетэнь, бо ў гэтым, як відаць з вышэйсказанага, саўсім ня было патрэбы; усе-ж гэтыя пэрлы бюлетэня аб «авантурах», «гіпнозе», «падлогах» і т. д., зьяўляецца чысьцейшым прадуктам хворай эміграцкае фантазыі п.п. Крэчэўскага і Захарко.

Калі выясьнілася, што старшыня ураду Б.Н.Р. А. Цьвікевіч катэгарычна адмовіўся падпісаць адстаўку п. Крэчэўскаму, заявіўшы саўсім слушна, што ніякай мовы аб адстаўцы ураду Б.Н.Р. быць ня можа, бо па запатрэбаваньню ўсіх краёвых арганізацыяў, ён павінен быць зьліквідаваны,—то мы далучыліся сьвядома да такое пастаноўкі справы. В. Захарко, пры нашай поўнай з А. Цьвікевічам аднадумнасьці, нічога не заставалася, як толькі далучыцца да нас, — ён ужо больш не настаіваў на падпісаньні якой-бы та ні было супольнай, усяго ўраду Б.Н.Р., адстаўкі. На наша запатрэбаваньне, каб па звароце да Прагі нашая умоўная заява аб «адстаўцы», патрэба ў якой зусім адпала, — была нам зьвернута, В. Захарко пры А. Цьвікевічу, К. Езавітаву і А. Галавінскім заявіў, што ён процiў гэтага нічога ня мае. Каб ухіліцца ўсякіх тлумачэньняў у справе ліквідацыі ўраду Б.Н.Р., мы, ніжэйпадпісаныя, цьвёрда сталі на грунце падпісаньня ўсімі сябрамі ураду адзінага пратаколу аб ліквідацыі. Тут-жа мы заявілі Захарко, што да агульнага пратаколу мы апрацуем і далучым сваю, за подпісамі трох, пастанову, з якой будзе ясна відаць, што мы становімся на плятформу Радавай Беларусі, процi чаго Захарко не пярэчыў.

Калі абедзьве рэзалюцыі былі гатовы, то спачатку падпісалі ўсе агульны пратакол. З подпісі В. Захарко на гэтым пратаколе ясна відаць, што і ён ня прыдаваў ніякага значэньня тэй умоўнай паперы аб «адстаўцы», якой надае цяпер П. Крэчэўскі вялікую вагу,

Вечарам гэтага-ж дня 15. X. 1925 г. старшыня ураду Б.Н.Р. А. Цьвікевіч афіцыяльна давёў да ведама нарады, як пратакол аб ліквідацыі Ураду, так і пастанову да пратаколу тых сяброў ураду, якія сталі на радавы грунт.

Гэта факты... А вывады самі сабой ясны: П. Крэчэўскі, даведаўшыся аб прынятых на нарадзе рэзалюцыях і ўбачыўшы, што застаецца амаль адзінокім, стаў «хапацца за саломінку». «Саломінка» была пад рукамі — гэта маргарынавая наша «адстаўка», на якой ён піша, па нашаму перакананьню, задняй датай, мінулым на тыдзень (знача, пасьля нарады у Бэрліне!) — «адстаўка прынята 10. X» і гэтым самым ставіць у смешнае палажэньне свайго спульніка В. Захарко. Характэрна: аб тым, што «адстаўка» Крэчэўскім была прынята, мы даведаліся амаль за месяц і то праз газеты!.. («Трыбуна» 7. X.).

Толькі картонпаму «дыктатару» Крэчэўскаму, які старціў пасьля ліквідацыі ураду Б.Н.Р. апошні грунт пад нагамі на эміграцыі, не ясна, якую палітычна-юрыдычную ахінею нясе ён, цьвердзячы, што са скасаваньнем ураду Б.Н.Р. (са згоды ўсіх сяброў ураду і ўкосна са згоды яго самаго, аб чым кажуць належныя §§ інстр.) засталася яшчэ якаясь асобная «установа ураду Б.Н.Р.» якую прэзыдыум Рады (г. зн. П. Крэчэўскі), як пудэлка ў патрэбны момант выцягне з кішані і ўсяму сьвету пакажа!

Як-жа тады, гр. Крэчэўскі, можна гэту Вашую, ад імя прэзыдыума Рады, заяву прымірыць з тым, што нам. старшыні прэзыдыума В. Захарко правай рукой падпісаўся пад пратаколам ад 15. X. 1925 г., дзе стаіць: «абвесьціць ад сёньняшняга дня ўрад Б.Н.Р. зліквідаваным і спыніўшым сваю дзейнасьць»!?

Гэта Вы, гр. Крэчэўскі, можаце толькі так думаць, што «нічога не зьмянілася» ад 1920 г., але факты рэальнага жыцьця кажуць інакш! Усе тыя людзі і ўстановы, на якія Вы у свой час апіраліся, саўсім адыйшлі ад Вас, і Вы, у крайнім выпадку, можаце пацешаць сябе ў сваей адзіноце успамінамі аб Вашай «вярхоўнай уладзе».

Мы лічым, што Вы і В. Захарко, якія засталіся толькі ў двох ад пяцічленнага прэзыдыуму Рады Б.Н.Р., ня маеце падстаў выступаць ад імя Рады Б.Н.Р.: калі-ж прыняць пад увагу пастанову ад 13. XII. 1919 г., на якую так асабліва націскаецца ў бюлетэні, то пасьля ліквідацыі ураду Б.Н.Р., толькі супольна з якім, паводле гэтае пастановы, прэзыдыуму Рады належаў увесь суварнітэт Рады Б.Н.Р. — то выпадае ўсялякі юрыдычны грунт пры выступленнях вашых ад імя Рады Б.Н.Р. наагул.

Што датыча вашых нападкў на нас, то мы ня будзем біць у грудзі, як гэта робіце вы з В. Ластоўскім і Т. Грыбам, даводзячы з пенай на вуснах, што толькі на вас усіх «вышняя благодать почиет» і што толькі вы «памазаньнікі божыя», якім адзіным дана ратаваць Беларускі народ і якім усё беларускае павінна падпарадкавацца!..

На падобнага роду ваш «месыянізм» мы заяўляем, што цьвёрда засталіся пры пастановах (вынясеных на беларускай нарадзе ў Бэрліне 15. X. 1925 г.), якія адбіваюць у сабе рэальнасьці здаровага жыцьця.

Мы саўсім далучаемся да заяў т. А. Цьвікевіча, які падробна высьвятліў на шпальтах «Савецкае Беларусі» аб тых прычынах, якія прымусілі нас зліквідаваць урад Б.Н.Р. заграніцай і пераехаць для рэальнай працы на бацькаўшчыну.

Мы яшчэ толькі лішні раз падкрэсліваем, што ніводная, па нашаму пераканаиью, з расейскіх паліт. партый на дзеле не зрабіла-б таго ў справе беларускага пытаньня, што зрабіла Ус. К. П., якая так канкрэтна і правідлова падыйшла да развязаньня нацыянальнае праблемы ў шматмільённай Расеі.

Што-б ворагі Радавай Беларусі ні каркалі, мы глыбока пераканаңы, што ў Б.С.С.Р. паступова зьдзейсьніваецца сапраўды беларускае адраджэньне ў галінах эканомікі, культуры і дзяржаўнасьці, як нідзе на другіх землях Беларусі. Канешна гэта можа не здаволіць беларускіх шавіністаў, але затое гэта адпавядае інтэрэсам агромністае масы працоўных Беларусі, ідэалы якіх якраз і праводзяцца ў жыцьцё работніцка-сялянскай уладай.

Наша цьвёрдае ў гэтым пераканаиьне мы атрымалі пасьля XII з'езду Ус. К. П., і яно ўзмацнілася асабліва ў апошнія часы ў зьвязку з правядзеньнем нацпалітыкі ў жыцьцё. З гэтым пераканаиьем мы і варочаемся для рэальной працы у Б.С.С.Р.

**Л. Заяц У. Пракулевіч.**

Зьмяшчаючы прысланы нам ліст былых сяброў марыянетачнага ўраду Б.Н.Р., рэдакцыя мусіць адзначыць, што ніскольні з імі не салідарызуецца. Для нас гэты ліст цікавы проста як дакумент, паказываючы, што жалезным ходам гістарычных падзей нават самыя заядлыя «незалежнікі», якія праводзілі праз восім гадоў антысавецкую палітыку, змушаны прызнаць тое, проці чаго ўвесь час змагаліся: што адзінай уладай, якая можа вырашыць беларускае пытаньне, зьяўляецца Савецкая. Мусім адзначыць, што яны, стаўшы на новую плятформу, на жаль усё-ж яшчэ прадаўжаюць жыць старымі катэгорыямі бэ-эн-эраўскага вузкалобага нацыяналізму, што яскрава відаць з цэлага зьместу ліста.

